Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 47 (4898) 25 лістапада 2016 г.

29 лістапада адбудзецца
III з’езд Саюза пісьменнікаў Беларусі.
Месца правядзення — Белдзяржфілармонія

Чытайце на стар. 4-7

# На радзіме Скрыгана

## пабывалі літаратурныя падарожнікі



Фота Таццяны Ушылавай.

Дрэва, якое памятае Яна Скрыгана.

**Больш як дваццаць вандровак за чатыры гады — так Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры набывае рэпутацыю нястомнага падарожніка. Гэтым разам пісьменнікі, артысты, навукоўцы ды журналісты пабывалі ў вёсцы Труханавічы, дзе нарадзіўся Ян Скрыган. Нядаўна мы адзначалі яго 111-годдзе.**

Вандроўку «падмацавала» яшчэ адна дата: пяць гадоў з дня заснавання адначыў музей Скрыгана ў школе аграгарадка Камень Капыльскага раёна.

Ад былой сядзібы Скрыганоў застаўся адно падмурак, але прагнозы аптымістычныя: унук пісьменніка, Юрась Скрыган, мае намер аднавіць дом, нягледзячы на тое, што стала жыве ў ЗША. Праўда, зазначае: праца гэта не такая простая, і справа нават не ў фінансаванні; трэба адшукаць майстроў, якія здолеюць паставіць дом на камяні, як некалі і было. Засталася да гэтага часу прысядзібная студня. Побач растуць старадаўнія дуб і ясень. Лідзія Шагойка, дырэктар музея гісторыі беларускай літаратуры, зазначае, што месца гэтае поўніцца асаблівай энергетыкай: адчуваеш нешта накшталт паяднання з пісьменнікам, да якога прыехаў у госці.

Сёння Труханавічы — звычайная вёска, якіх у Беларусі тысячы. Жывая, але моладзі ўсё меней. Школа, дзе некалі навучаўся сам Скрыган, зачыненая. У ёй, дарэчы, настаўнічаў пасля гістфака Кастусь Цвірка. У той час ён і пазнаёміўся са Скрыганамі — дапамагалі ў пошуках кватэры, — пра што й распавёў падчас падарожжа.

Ініцыятарам літаратурнай вандроўкі выступіла Галіна Іванаўна Скрыган, дачка пісьменніка і галоўная захавальніца памяці пра яго. Яна ж дапамагала ствараць музей у школе аграгарадка Камень, перадала ў экспазіцыю рэчы, якім мог бы пазайздросціць сталічны музей: асабістыя прадметы Яна Скрыгана, арыгіналы дакументаў і рукапісаў, фотаздымкі. Тут захоўваецца рабочы стол пісьменніка, і славутыя скрыганаўскія кіёчкі, якія той вырабляў сам і дарыў сябрам-калегам, а таксама — шахматы, найлюбімейшая яго гульня.



Макет бацькоўскай хаты Яна Скрыгана.

Да дня народзінаў музея Галіна Іванаўна падрыхтавала падарунак: рукапіс артыкула Яна Скрыгана, прысвечаны праблемам захавання беларускай мовы. Адметна, што экскурсаводамі ў музеі «працуюць» навучэнцы школы. Удзельнікі падарожжа як адзін адзначылі іх глыбокія веды ў творчасці і біяграфіі пісьменніка, як і талент маленькай даследчыцы Дар’і Тагіль, якая на святочнай сустрэчы прэзентавала навуковую работу «Творчыя сляды дзядулі Скрыгана» — расповед пра таленавітых нашчадкаў пісьменніка.

Прыкладам, знаёмыя з Галінай Іванаўнай ведаюць, як добра яна спявае. Пачулі яе і падчас падарожжа: з Сяргеем Доўгушавым і Яўгенам Курыльчыкам яны выканалі рамано «Толькі з табою» на словы Адама Русака.

На сустрэчы ў Камені сабраліся не толькі навучэнцы школы, але і мясцовыя жыхары: усё ж цікава паглядзець на гасцей, сярод якіх пісьменнікі — Анатоль Бутэвіч, Анатоль Валахановіч, Віка Трэнас, Хрысціна Лялько. Яе на пачатку творчага шляху вельмі падтрымаў Ян Скрыган, адстойваў самабытнасць і арыгінальнасць паэзіі маладой аўтаркі. Добра памятаюць Яна Аляксеевіча і «дзеці пісьменнікаў»: Людміла Карпава, Валерыя Навуменка, Таццяна Зарыцкая, Наталля Брыль, чые сем’і сябравалі са Скрыганамі. «Такія непасрэдныя дзіцячыя ўспаміны вельмі каштоўныя, — зазначае Лідзія Паўлаўна, — бо дзеці бачаць не пісьменніка, а чалавека». Відэапрывітанне з Германіі перадаў малодшы ўнук Скрыгана — таксама Ян. Урыўкі з твораў пісьменніка чытала Галіна Дзягілева, дырэктар — мастацкі кіраўнік тэатра «Зніч».

**Наста ГРЫШЧУК**



Рабочы стол пісьменніка.

## Пункцірам

✔«Апошнім часам мы тут часта гаворым пра тое, што трэба па-новаму адкрываць Беларусь, — зазначыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з прадстаўнікамі расійскіх рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі. — Не ў тым сэнсе, што мы нейкая закрытая тэрыторыя, — не. Што такое Беларусь для тых, хто тут не бываў, якія выклікае асацыяцыі? Дранікі, Белавежская пушча, добрыя дарогі, зубры, гіганцкія самазвалы, шматфункцыянальныя трактары, якасныя прадукты... Але на самай справе Беларусь значна больш цікавая і багатая».

✔ «У Беларусі захаваны ўсе вядучыя газеты — не толькі рэспубліканскія, але і абласныя, раённыя, — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы падчас дыялогу з расійскімі журналістамі. — Гэтыя выданні атрымліваюць датацыі ад органаў улады». Аляксандр Лукашэнка лічыць, што прэсе трэба паказваць і станоўчыя прыклады, і недахопы — павінна быць збалансаванасць.

✔ Выступаючы ў храме Хрыста Збавіцеля ў Маскве з віншавальнай прамовай у гонар 70-годдзя Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адзначыў уклад Патрыярха ва ўмацаванне духоўнага адзінства Беларусі і Расіі. «У Беларусі вы карыстаецеся самым заслужаным аўтарытэтам і народнай любоўю. Вас ведае кожны чалавек — і хрысціянін, і мусульманін, і прадстаўнікі іншых канфесій. Гэта вынік вашай працы і добрага стаўлення да нашай краіны як прадстаяцеля Рускай праваслаўнай царквы», — падкрэсліў Прэзідэнт.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа з 90-годдзем. «Высокі прафесійны ўзровень і патрабавальнасць да фарміравання рэпертуару дазволілі вам стварыць шэраг яркіх спектакляў, якія выклікаюць інтарэс шматлікіх гледачоў розных пакаленняў, — гаворыцца ў віншаванні. — Гісторыю тэатра пісалі цудоўныя артысты, рэжысёры, мастакі — сапраўдныя майстры, адданыя свайму прызванню і роднай сцэне». Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што сёння калектыў тэатра, багаты на таленты і творчыя планы, працягвае лепшыя традыцыі акадэмічнага мастацтва, многія яго пастаноўкі папоўнілі скарбніцу беларускай культуры.

✔ На гэтым тыдні Лаос прымаў Дні культуры Беларусі. Праграма ўключала выступленне Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята», экспанаванне выстаўкі «Беларусь і беларусы» з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Як адзначылі ў Міністэрстве культуры Беларусі, культурнае супрацоўніцтва дзвюх краін плённа развіваецца. Дні культуры Лаоскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі прайшлі ў Беларусі летась. Сёлета, у чэрвені, на пасяджэнні беларускай часткі сумеснай камісіі па двухбаковым супрацоўніцтве паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Лаоскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі разглядаліся далейшыя перспектывы развіцця стасункаў у сферы культуры.

✔Выстаўка да 110-годдзя пачатку творчай дзейнасці Якуба Коласа «Свайму часу і вечнасці» адкрылася ў Літаратурным музеі А. С. Пушкіна ў Вільнюсе. Экспазіцыя ўключае матэрыялы з фондаў Дома-музея Якуба Коласа: факсімільнае выданне газеты «Наша доля» з першай публікацыяй паэта, рукапісы лістоў Якуба Коласа ў рэдакцыю «Нашай нівы», ілюстрацыі да твораў Якуба Коласа беларускіх мастакоў Васіля Шаранговіча, Анатоля Волкава, Анатоля Александровіча і іншых, фатаграфіі паэта перыяду знаходжання ў Вільнюсе, выданні 1920 — 1940 гадоў, газеты «Літаратура і мастацтва», віленскія выданні твораў паэта розных гадоў і многае іншае. Жыццё і творчасць Якуба Коласа з 1906 года звязана з цяперашняй сталіцай Літвы.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Багатая імёнамі

Сярод кніжных серый, заснаваных Саюзам пісьменнікаў Беларусі, адметнае месца займае «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі». Выйшла ўжо 140 кніг, у тым ліку 35 — у серыі «Бібліятэка сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы» і 14 — у серыі «Маладая паэзія Беларусі».

Серыя «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» заснавана па ініцыятыве старшыні СПБ Мікалая Чаргінца і дырэктара выдавецтва «Харвест» Юрыя Хацкевіча. Сёння кнігі серыі выпускае і выдавецтва «Чатыры чвэрці». Пачалі з беларускіх класікаў: Якуба Коласа, Івана Шамякіна, Івана Чыгрынава, Максіма Танка. З сучасных аўтараў у гэтай серыі выйшлі кнігі «Крык на хутары» Георгія Марчука, «Маё лета» Генадзя Пашкова, «Цвіла, цвіла чаромха» Мікалая Ільінскага, «Зерне да зерня» Алеся Марціновіча, «Час яблыкаў» Мікалая Наменскікава, «Мне Богам дадзена Радзіма» Змітрака Марозава…

У якасці ганарару кожны аўтар атрымлівае па 100 экзэмпляраў уласнай кнігі. Цяпер рыхтуецца да друку кніга празаіка Аляксандра Сакалова.

**Яна ЯВІЧ**

# Творцы і даты

Сёлетняя восень — юбілейная для сябра СПБ Ніны Каленчыкавай, літаратуразнаўцы, якая даўно і плённа працуе на карысць прыгожага слова. З-пад пяра Ніны Васільеўны, настаўніцы з 30-гадовым стажам, выйшла сем кніг, сярод якіх — «Пра песню народную, "Неруш" і Валянціну», «"Над вымыслом слезами обольюсь...": Творчая споведзь», «"Я снова чью-то песню слышу...": Сяргей Ясенін і бардаўская песня» і г. д.

Да юбілею пісьменніцы быў прымеркаваны і яе творчы вечар у Мемарыяльнай зале Дома літаратара. «Артыкулы Ніны Каленчыкавай жывыя, душэўныя. Тое, пра што піша аўтарка, прапушчана ёю праз сэрца і душу», — распавёў Міхась Пазнякоў, які ўручыў творцы медаль «За вялікі ўклад у літаратуру».

Сярод тых, хто прыйшоў павіншаваць Ніну Каленчыкаву з юбілеем, — старшыня Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, інфармацыі, спорту і турызму Наталля Аўдзеева.

Імпрэза «Дзеці вайны», якая прайшла ў Цэнтры тэхнічнай і мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна г. Мінска «Зорка», была прысвечана Сусветнаму дню дзіцяці.

На сустрэчу прыйшлі лаўрэат прэміі імя Янкі Маўра Мікалай Чарняўскі і лаўрэат літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра і прэміі імя Васіля Віткі часопіса «Вясёлка», сябар Клуба творчых жанчын «Спадарыня» Ніна Галіноўская, якая напярэдадні свайго юбілею атрымала Падзяку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Госця прачытала ўласныя вершы, прапанавала цікавыя загадкі. А Мікола Чарняўскі падзяліўся з навучэнцамі ўспамінамі пра тое, як пасля ўрокаў заставаліся ўсім класам чытаць кнігу «Ніколі не забудзем». Потым, калі пасталеў, сустрэўся з героямі гэтай кнігі.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

## За падзеяй

# «Не наслядзіць, а след пакінуць»

Кнігу «Вянок» з аўтографам Максіма Багдановіча можна пабачыць на выстаўцы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі

Знаўцы ведаюць: «упалявацъ» асобнік Багдановічавага «Вянка» — вялікая ўдача і шчасце для калекцыянера. А прысутнасць аўтарскага аўтографа на кнізе робіць яе амаль бясцэннай. Мы бачым акуратныя, каліграфічным почыркам выведзеныя словы-адрас сябру паэта Мікалаю Какуеву. Той факт, што гэты асобнік захоўваецца менавіта ў Нацыянальнай бібліятэцы, пацвярджае: спадчына Багдановіча і яго адзіная прыжыццёвая кніга паэзіі — сапраўдны скарб для ўсяго народа.

Выстаўка, што атрымала сімвалічную назву «Светлы след…», арганізаваная галоўнай кніжніцай краіны і Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь і прымеркаваная да 125-годдзя паэта, паказвае шлях самога Максіма Багдановіча — праз кнігі і дакументы. Тут ёсць і работы Багдановіча, і даследаванні яго спадчыны, і дакументы, звязаныя з ушанаваннем яго асобы ў сталіцы.

— Мы, прадстаўнікі вельмі сціплай прафесіі бібліятэкараў, таксама зрабілі ўнёсак, каб імя Максіма Багдановіча сёння гучала і было вядомае, — зазначыў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі, доктар педагагічных навук Раман Матульскі. — Адразу пасля заснавання наша бібліятэка пачала збіраць матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта. Але ў гады Вялікай Айчыннай вайны многае страчана. Сёння, калі мы гаворым пра зорку Багдановіча, можам згадаць і нашу бібліятэчную зорку — нястомную збіральніцу Ніну Ватацы. Амаль усё жыццё яна прысвяціла збору і захаванню матэрыялаў пра Максіма, і сёння, ужо праз многа гадоў, яе праца не страціла значнасці.

На выстаўцы «Светлы след…» прадстаўленыя ўнікальныя дакументы розных гадоў, самы стары з іх датуецца 1918 годам.

— На гэтую выстаўку мы выбралі і прадставілі дакументы, звязаныя з ушанаваннем памяці паэта, — тлумачыць дырэктар Нацыянальнага архіва Віктар Кураш. — Так, тут ёсць дакумент, што фіксуе рашэнне 1918 года аб стварэнні Беларускага народнага дома імя Максіма Багдановіча, ахоўная грамата прадстаўніцтва ўрада Беларусі пры ўрадзе РСФСР аб запрашэнні бацькі паэта на пражыванне ў нашай краіне з прадстаўленнем кватэры. Гэта і перапіска мастакоў з ЦК партыі аб стварэнні помніка паэту ў Мінску, і лісты Саюза пісьменнікаў да Пятра Машэрава з просьбамі аб заснаванні музея Багдановіча ў Мінску.

Падчас урачыстага адкрыцця выстаўкі адбылася таксама прэзентацыя электроннага выдання «Паэт красы і гармоніі», прысвечанага Максіму Багдановічу. Гэта сапраўдная бібліятэка, што змяшчае больш як 250 алічбаваных тэкстаў, работы мастакоў, фрагменты тэлефільмаў і песні на вершы класіка. Упершыню дыск быў прэзентаваны 5 гадоў таму, але цяпер чытачы атрымалі абноўленую, пашыраную версію бібліятэкі.

Багдановічу на гэтай зямлі Бог адмераў 25 гадоў, але якіх плённых і сапраўды зорных, выніковых у літаратуры. Паэт любіў глядзець на зоркі, а цяпер — зоркі чытаюць яго вершы: да канца года ў прыцемках на электронным светлавым табло Нацыянальнай бібліятэкі можна пабачыць словы Максіма.



Фота Кастуся Дробава.

Падчас адкрыцця выстаўкі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



## Конкурсы

# Казкі ў фарбах

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа аб'яўляе конкурс для школьнікаў «І складаюцца самыя дзівосныя казкі…», прымеркаваны да 110-годдзя пачатку творчай дзейнасці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, 90-годдзя верша «Савось-распуснік» і 90-годдзя зборніка алегарычных апавяданняў «Казкі жыцця». Да ўдзелу запрашаюцца дзеці і моладзь ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў.

Намінацыі для літаратурных твораў: «Крыніца натхнення» (апавяданні «Казкі жыцця» Якуба Коласа), «Чыя праўда?» (філасофскі аспект «Казак жыцця» Якуба Коласа), «Ну, такі каток харошы, як драпянка за тры грошы!» (мой хатні гадаванец), «І каб кожны пачуў тваё слова» (да 110-годдзя пачатку творчай дзейнасці Якуба Коласа).

Намінацыі для твораў выяўленчага мастацтва (малюнак, паштоўка, пано, калаж, вырабы *hand-made*): «Вось што, дзеткі, мае краскі» (90 гадоў вершу «Савось-распуснік»), «"Казкі жыцця" Якуба Коласа ў выяўленчым мастацтве», «Жывыя малюнкі, вобразы, сімвалы…» (да 110-годдзя пачатку творчай дзейнасці Якуба Коласа).

Прыём конкурсных работ ажыццяўляецца аргкамітэтам конкурсу з 21 лістапада да 31 снежня 2016 года (уключна). Да ўдзелу прымаюцца індывідуальныя творы. У выпадку, калі дасылаюцца творы калектыву з двух і больш чалавек, яны разглядаюцца як адзін удзельнік. Аб'ём работ: для празаічных твораў — не больш як адзін друкаваны аркуш (40 000 знакаў з прабеламі), для вершаваных твораў — не больш як 250 радкоў; для твораў выяўленчага мастацтва — не абмежаваны.

Творы прадстаўляюцца ў друкаваным альбо напісаным ад рукі выглядзе на паштовы адрас музея (220012, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 5) альбо ў электронным выглядзе на электронную скрыню Музея *(muzeykolasa@gmail.com)* не пазней 31 снежня. Разам з конкурснай работай удзельнік павінен даслаць свае прозвішча і імя; месца навучання; паштовы адрас; электронны адрас (пры наяўнасці); мабільны ці стацыянарны тэлефон. Усе ўдзельнікі конкурсу адзначаюцца падзякамі і памятнымі сувенірамі.

**Арына КРАЙКО**

# ПАД ЗНАКАМ «Т»

## Лепшыя спектаклі Беларусі назавуць у Купалаўскім тэатры

Фестывальны тыдзень, дзе гледачы знаёмяцца з удзельнікамі рэспубліканскага конкурсу «Нацыянальная тэатральная прэмія», — ужо фінальны этап, таму што праца над праектам ішла амаль увесь год. Усяго камісія разгледзела 45 заявак ад тэатраў, прапусціўшы ў фінал 21 спектакль з усёй краіны. З імі сталічныя гледачы пазнаёмяцца да 26 лістапада.

— Нацыянальная тэатральная прэмія — адзін з найбольш адказных праектаў у Год культуры, — адзначыў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў падчас адкрыцця фінальнага этапу рэспубліканскага конкурсу «Нацыянальная тэатральная прэмія». — Гэта найбольш значны праект у Год культуры, які расставіць усе кропкі над «і» ды адлюструе нашае стаўленне да тэатра сёння. Спектаклі, прадстаўленыя ў фінале, дадуць уяўленне пра наша тэатральнае мастацтва на цяперашнім этапе.

Журы працуе ў чатырох напрамках: музычны тэатр, тэатр драмы, тэатр лялек і тэатр для дзяцей і юнацтва. Сёлета «Нацыянальная тэатральная прэмія» зведала шэраг змен, якія сталі галоўнай тэмай для абмеркавання ў колах прафесіяналаў і зацікаўленых гледачоў. Цяпер прэмія ладзіцца адзін раз на два гады. Таксама, згодна з прапановамі кіраўнікоў тэатраў, змянілі некаторыя намінацыі конкурсу. Спектаклі ў 2016 годзе ацэньваюцца ў 19 намінацыях (у 2014 годзе іх было 21). Няма сёлета намінацыі «Найлепшая рэжысёрская работа» і «Найлепшы мастак-пастаноўшчык», таксама як і ўзнагароды для лепшага маладога рэжысёра. Але ўзніклі спрэчкі: ці не прывядзе гэта да безаблічнасці тэатра, бо тэатр — мастацтва, дзе нябачная роля рэжысёра задае гучанне ўсяго твора?

— Падчас шматлікіх дыскусій і абмеркаванняў было вырашана, што вызначэнне лепшага спектакля адначасова вылучае і лепшую працу аўтарскага калектыву. Гэта і драматург, і рэжысёр, і мастак-пастаноўшчык, — патлумачыла змены першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына Дрыга на прэс-канферэнцыі з нагоды пачатку тыдня з «Нацыянальнай тэатральнай прэміяй». — Наўзамен падзялілі намінацыю за акцёрскую працу: зараз вызначаюць «Лепшую мужчынскую» і «Лепшую жаночую» ролі, бо па выніках мінулай прэміі бачна, што адной узнагароды для акцёраў мала.

Закрыццё фестывальнага тыдня і цырымонія ўзнагароджання пераможцаў адбудзецца на сцэне Купалаўскага тэатра 27 лістапада. Паводле генеральнага дырэктара тэатра Паўла Палякова, акцэнт фінальнай імпрэзы будзе зроблены на гісторыі беларускага тэатра.



*Спектакль «Чайка» Купалаўскага тэатра (рэж. М. Пінігін) пачаў тэатральны тыдзень.*

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# У вольных рытмах

Міжнародны фестываль джаза «*JazzinMinsk-2016*», які ўпершыню адбыўся ў 2012 годзе, пройдзе на лепшых беларускіх канцэртных пляцоўках з 24 па 27 лістапада.

Сёлета на «*JazzinMinsk*» чакаюцца выступленні музыкантаў з Беларусі, Расіі, Арменіі, ЗША, Францыі, Германіі і Латвіі. Адкрыюць фестываль выступленні біг-бэнда «*Riga Mirage*» (Латвія), Фрэда Такса (вакал, ЗША) і Рона Бэйкера (труба, ЗША).

У наступныя дні беларуская публіка атрымае магчымасць пачуць вакальны дуэт легенды чыкагскага блюза Энджэлы Браўн і Рональда Бэйкера (ЗША), а таксама выступленне саксафаніста афраамерыканскага джаза Геры «Дэтройта» Уігінса. Расію на фестывалі прадставіць джаз-квартэт "Масква-Пецярбург", а Арменію — лідар сучаснага армянскага джаза, піяніст і кампазітар Малхас. Ад Беларусі на «*JazzinMinsk-2016*» запланаваныя выступленні такіх джазавых калектываў, як «*Blues Minsk All Stars Orchestra*» і «*Allnarator Orchestra*».

Арганізатар і генеральны прадзюсар фэсту — беларускі музыкант, уладальнік дыплома Нацыянальнай камісіі ЮНЕСКА «За значны ўклад у развіццё джаза ў Беларусі» Яўген Уладзіміраў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Дабро перамагае: прыгожа і вытанчана

## Два казачныя спектаклі ў новай рэдакцыі ад «Рускага балета»

Іх пакажуць 26 лістапада ў Палацы Рэспублікі: тут чакаецца сустрэча з Маскоўскім дзяржаўным тэатрам «Рускі балет» пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Вячаслава Гардзеева. У дзённым прадстаўленні, якое пачнецца а 13-й гадзіне, — балет «Шчаўкунок», а ўвечары, а 19-й, — «Лебядзінае возера».

Абодва балеты Чайкоўскага — і «Шчаўкунок», і «Лебядзінае возера» — былі ўпершыню пастаўлены ў Санкт-Пецярбургу на сцэне Марыінскага тэатра ў канцы XIX стагоддзя — адпаведна ў 1892 і 1895 годзе. Актуальнасці і папулярнасці не губляюць да гэтага часу. Упрыгожваюць рэпертуар многіх тэатраў, у тым ліку і Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Тым больш цікава пагледзець пастаноўкі ў выкананні "Рускага балета": яны паўстануць у новай рэдакцыі — ад балетмайстра і харэографа Вячаслава Гардзеева.

Знамянальна, што абодва спектаклі пройдуць пад «жывы» гук у суправаджэнні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь. За дырыжорскім пультам — маэстра Аркадзь Берын.

**Элеанора СКУРАТАВА**

# Палессе самабытнае

## На Піншчыне стала болей на адзін аб'ект культуры

Цэнтр традыцыйнай культуры і побыту «Спадчына Палесся» распачаў сваю работу ў вёсцы Мерчыцы. Шэсць выставачных залаў, больш за дзве сотні экспанатаў і багацце духоўнай нематэрыяльнай спадчыны — усё гэта з нядаўняга часу атрымала прапіску ў былым памяшканні сярэдняй школы. Сярод экспанатаў — вырабы з лазы, гліны, лёну, прадметы побыту палешукоў, адзення. Над стварэннем Цэнтра традыцыйнай культуры і побыту працавалі ўсім раёнам: адшуквалі экспанаты, збіралі інфармацыю пра іх паходжанне, пры неабходнасці рэстаўравалі. Па словах работнікаў культуры Піншчыны, новая ўстанова стане цэнтрам, дзе захоўваецца багацце палескай самабытнай спадчыны.

**Марыя КОБЕЦ**



*Фота Наталлі Міхеўскай.*

*Фрагмент экспазіцыі цэнтра «Спадчына Палесся».*

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**28 лістапада** — *на прэзентацыю кніжнай серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» — у дзіцячую бібліятэку № 6 імя Васіля Віткі (вул. К. Лібкнехта, 98). Пачатак у 14.30.*

**28 лістапада** — *на Мінскі гарадскі конкурс «Студэнт года-2016», які пройдзе ў памяшканні Маладзёжнага тэатра эстрады (вул. Маскоўская, 18а). Пачатак у 15.50.*

**29 лістапада** — *пісьменнікаў аддзялення на з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі, які пройдзе ў Белдзяржфілармоніі (пр. Незалежнасці, 50). Пачатак рэгістрацыі — з 9.30, работы — з 11.00.*

**30 лістапада** — *на гарадскі конкурс мастацкага чытання беларускай паэзіі (першы адборачны тур) у Дом літаратара (2-і паверх, каб. 226). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**30 лістапада** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16) на канцэрт ансамбля народнай песні і музыкі «Менскі гармонік», у выкананні якога прагучаць песні на вершы класікаў і сучасных беларускіх паэтаў. Пачатак у 17.30.*

**30 лістапада** — *на творчы вечар паэтэсы Алены Кошкінай у Галерэю «tut.by» (пр. Дзяржынскага, 57). Пачатак а 19-й гадзіне.*

**30 лістапада** — *на канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў спявачкі Надзеі Броньскай, у выкананні якой прагучаць песні на вершы знакамітых паэтаў, у Дом Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 19-й гадзіне.*

**1 снежня** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Таісай Трафімавай у публічную бібліятэку № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Пачатак у 14.30.*

**1 снежня** — *на вечар памяці пісьменніка Мікалая Шыпілава «Я быў паэтам...» у канцэртную залу ЦК ГА «БРСМ» (вул. К. Маркса, 40). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**2 снежня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ. 5-309). Пачатак у 14.30.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**30 лістапада** — *на вечар, прысвечаны 90-годдзю народнага літаратурнага аб'яднання «Наддзвінне», у якім возьмуць удзел пісьменнікі Мікалай Балдоўскі, Пётр Буганаў, Галіна Загурская і Віктар Карасёў. Імпрэза адбудзецца ў Полацкім раённым цэнтры рамёстваў і нацыянальных культур (вул. Ніжне-Пакроўская, 27). Пачатак у 17.30.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**29 лістапада** — *на вечар-знаёмства з паэтам Валерыем Вятошкіным «Ты Богом посланная муза, моя попутчица и власть...» у клуб для людзей сталага ўзросту «Мудрасць» пры бібліятэцы-філіяле № 14 (г. Гомель, вул. Жамчужная, 30). Пачатак у 16.30.*

**29 лістапада** — *у літаратурна-мастацкі салон «Сустрэчы на Замкавай» пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна (вул. Савецкая, 26) на творчую сустрэчу з маладой паэтэсай Марынай Башуравай. Пачатак а 17-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**30 лістапада** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Словадром» у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага (вул. Замкавая, 20, Новы замак). Тэма дыскусіі: «Цяжар славы». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**2 снежня** — *на традыцыйную творчую сустрэчу з пісьменнікамі Гродзеншчыны ў Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музей (Гродзенская вобласць, Мастоўскі р-н, в. Гудзевічы, вул. Цэнтральная, 7). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**2 снежня** — *на вечар беларускай музыкі і паэзіі «Добры настрой» з удзелам паэта Дзмітрыя Радзівончыка ды аўтара і выканаўцы песень Аляксандра Закрэўскага ў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы (вул. Ажэшкі, 22, аўд. 318). Пачатак у 18.30.*

**Напярэдадні III з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі мы цікавімся: з якімі набыткамі падыходзяць да форуму рэгіёны? Што адбылося ў Саюзе пісьменнікаў за пяць гадоў? Пра гэта разважаюць кіраўнікі абласных аддзяленняў СПБ.**

# Імёны творцаў — у назвах вуліц



Калі яшчэ, як не падчас галоўнага форуму пісьменніцкай супольнасці, засяродзіцца на шматлікіх аспектах нашай літаратурнай дзейнасці? Айчынныя майстры мастацкага слова зрабілі шмат, яшчэ больш хочацца бачыць увасобленым у жыццё. Пра гэта і будзем адкрыта і грунтоўна выказвацца з трыбуны з'езда. А пакуль — пра асобныя моманты працы пісьменнікаў Магілёўшчыны.

Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ працуе плённа. Кнігі сяброў абласной арганізацыі карыстаюцца попытам. У серыі «Магілёўшчына літаратурная» штогод выдаецца альманах «Прыдняпроўе». Хачу падзякаваць Выдавецкаму дому «Звязда», дзе выйшаў выпуск альманаха 2014 года.

Творцы рэгіёна часта сустракаюцца з чытачамі. Сумесна з іншымі творчымі і грамадскімі арганізацыямі, установамі культуры і адукацыі штогод праводзім літаратурныя чытанні імя Максіма Гарэцкага, Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна, Канстанціна Сіманава, Івана Чыгрынава. На малой радзіме Аркадзя Куляшова, Івана Чыгрынава, Алеся Пісьмянкова, у Касцюковіцкім раёне, тры гады запар, пачынаючы з 2013-га, праходзілі абласныя святы паэзіі, у межах якіх ладзяцца паэтычныя вечарыны, сустрэчы творцаў Магілёўшчыны і Мінска, іншых гарадоў краіны з чытачамі, літаратурныя конкурсы, прэзентацыі новых кніг сяброў СПБ. У межах літаратурнага календара «Юбіляры месяца» ў бібліятэках вобласці арганізаваныя кніжныя выстаўкі, чытацкія канферэнцыі і г. д.

Трывалыя сувязі ўсталяваліся ў абласнога пісьменніцкага аддзялення са Смаленскай абласной арганізацыяй Саюза пісьменнікаў Расіі. Сёлета, да прыкладу, сумесна правялі IV Міжнародны літаратурны конкурс, прысвечаны памяці Канстанціна Сіманава і 75-годдзю гераічнай абароны Магілёва падчас Вялікай Айчыннай вайны. Магілёўскае абласное аддзяленне цесна кантактуе з галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама. Творчыя стасункі наладжаны з Магілёўскай абласной арганізацыяй рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства "Веды"», абласной бібліятэкай імя У. І. Леніна, абласным грамадскім аб'яднаннем «Рускі Дом», гарадскім аддзяленнем Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства», гарадскім грамадскім аб'яднаннем «Рускае культурна-асветніцкае таварыства».

Ёсць у нас і пэўныя літаратурныя дасягненні. Уладальнікам Рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» за лепшы твор 2012 года (а гэта кніга нарысаў «Зямля Магілёўская», выдадзеная Магілёўскай абласной друкарняй імя Спірыдона Собаля) у намінацыі «Краязнаўства» прызнаны магілёўскі празаік Мікалай Барысенка, які сёлета стаў лаўрэатам Нацыянальнай літаратурнай прэміі ў намінацыі «Лепшы твор публіцыстыкі» за кнігу «Эхо "Великой войны" в восточной Беларуси (1914 — 1918)».

Заснавана літаратурная прэмія Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ, якой адзначаюцца аўтары лепшых кніг года і за важкі ўклад у літаратуру. Яе лаўрэатамі сталі паэты, празаікі і публіцысты Аляксандр Церахаў, Іван Пехцераў, Васіль Рагаўцоў, Мікалай Барысенка, Мікалай Давідовіч, Віктар Арцем'еў ды іншыя. Гэта прэмія носіць імёны выдатных беларускіх пісьменнікаў — Івана Чыгрынава, Аляксея Пысіна, Васіля Хомчанкі, Якуба Усікава, Алеся Пісьмянкова.

Дбаючы пра літаратурную змену, Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ актыўна супрацоўнічае з літаратурнымі аб'яднаннямі, створанымі пры навучальных установах, установах культуры, рэдакцыях газет вобласці. Літаратурнымі аб'яднаннямі кіруюць сябры нашага пісьменніцкага аддзялення Марына Сліўко, Наталля Міхальчук, Аляксандр Церахаў (г. Магілёў), Мікола Мінчанка (г. Клімавічы), Мікола Падабед (г. п. Бялынічы), Мікола Салаўцоў (г. Чавусы). Шмат робіць Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ для дапамогі маладым літаратарам: дзейнічае секцыя па рабоце з маладымі аўтарамі. Шмат месца аддае іх творам наш альманах «Прыдняпроўе». На літаратурнай старонцы абласной газеты «Магілёўскія ведамасці» мы змяшчаем творы маладых паэтаў і празаікаў. Творчасць пачаткоўцаў абмяркоўваецца на пасяджэннях савета пісьменніцкага аддзялення. Па выніках абмеркаванняў шэраг аўтараў рэкамендаваны для прыёму ў члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Імёны беларускіх пісьменнікаў носяць вуліцы, навучальныя ўстановы і ўстановы культуры. Пяць гадоў таму ў іх гонар заснаваныя спецыяльныя прэміі, якія ўручаюцца за папулярызацыю беларускай мовы: Бабруйскім гарвыканкамам — прэмія імя народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова, Касцюковіцкім райвыканкамам — прэмія імя народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава, Краснапольскім райвыканкамам — прэмія імя знакамітага паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі Аляксея Пысіна. З узмацненнем дзяржаўнай падтрымкі стаўленне да пісьменніка ў грамадстве значна паляпшаецца. Магілёўскі гарадскі Савет дэпутатаў падтрымаў прапанову нашага пісьменніцкага аддзялення і назваў больш як дзясятак вуліц і завулкаў новага жылога мікрараёна абласнога цэнтра імёнамі беларускіх пісьменнікаў, якія лёсам і творчасцю былі звязаны з Магілёўшчынай. Ёсць сярод іх вуліцы Платона Галавача, Янкі Журбы, Васіля Каваля, Анатоля Сербантовіча, Эдуарда Валасевіча, Міколы Лук'янава. Клімавіцкі райвыканкам вырашыў прысвоіць раённай бібліятэцы імя паэта-земляка Івана Пехцерава. На Магілёўшчыне добра ведаюць і любяць яго творчасць.

Шчыра дзякую газеце «Звязда» за праект «Глуша Адамовіча», які дзейсна спрыяе стварэнню музея аўтара «Хатынскай аповесці» на яго малой радзіме. Цыкл публікацый «Звязды» зрушыў з мёртвай кропкі працу па стварэнні музея Алеся Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» ў пасёлку Глуша Бабруйскага раёна. Сёлета пры Бабруйскім райвыканкаме быў адкрыты разліковы рахунак на збор сродкаў для вырабу праектна-каштарыснай дакументацыі і рэканструкцыі будынка ў пасёлку Глуша пад музей Алеся Адамовіча. Дарэчы, Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ пералічыла на яго сабраныя за год членскія ўзносы.

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ**

# Ад фаліянтаў да забаўлянак



За апошнія пяць гадоў у творчай скарбонцы пісьменнікаў Міншчыны з'явілася амаль 450 новых выданняў. З-пад пяра літаратараў цэнтральнага рэгіёна выйшлі кнігі самага рознага кшталту: грунтоўныя фаліянты амаль энцыклапедычнага характару і асобнікі пачаткоўцаў; проза, публіцыстыка для дарослых і казачныя забаўлянкі для дзятвы.

Асаблівы гонар — калектыўныя зборнікі. Вабіць незвычайнасцю вобразаў, шматколернасцю мастацкіх параўнанняў, эпітэтаў багатая на разнастайную жанравую палітру «Міншчына літаратурная». Зборнік «Радзіма. Адзінства. Перамога» стаў своеасаблівым пісьменніцкім гімнам сённяшняму мірнаму дню. У альбоме «Зачараваны Беларуссю» фотаздымкі гарманічна спалучыліся з паэтычнымі радкамі. Удзел у праекце ўзялі больш як 20 паэтаў з розных куткоў вобласці.

Імёны многіх творцаў Мінскага абласнога аддзялення СПБ вядомыя шырокаму колу чытачоў: Генадзь Аўласенка, Дмітрый Вінаградаў, Барыс Далгатовіч, Наталля Голубева, Зіновій Прыгодзіч, Мікалай Смірноў, Кацярына Хадасевіч-Лісавая.

Аб прызнанні пісьменнікаў Міншчыны сведчаць узнагароды. Сёлета, напрыклад, асаблівую адзнаку — Нацыянальную літаратурную прэмію — атрымаў аўтар кніг для дзяцей Сяргей Клімковіч.

Аўтарытэтнасць пісьменніцкай арганізацыі пацвярджае і колькасны рост членаў абласнога аддзялення, у складзе якога — 91 літаратар. Кожны з іх — са сваім творчым почыркам, адметным мастацкім стылем. Кожны чароўнай сілай прыгожага слова імкнецца захапіць чытача, далучыць да шчырага сяброўства з кнігай. Таму пісьменнікі Міншчыны такія частыя госці ў школьных і студэнцкіх аўдыторыях. Знакавай для жыцця аддзялення стала акцыя «Кнігі пісьменнікаў — у бібліятэку чытачам», ініцыятарам якой выступіў член Савета аддзялення Леанід Крыванос. Такім чынам 14 раённых бібліятэк вобласці атрымалі імянныя кніжныя падарункі.

А шматгадовае супрацоўніцтва абласнога аддзялення з Дзяржаўным пагранкамітэтам Рэспублікі Беларусь натхняе армейскую моладзь на годнае нясенне службы. Памятнай сталася сустрэча пісьменнікаў аддзялення з маладымі байцамі-пагранічнікамі «вучэбкі» ў Дзяржынску.

Наогул, тэма Вялікай Айчыннай вайны, звязанае з ёй ваенна-патрыятычнае выхаванне моладзі — галоўны прыярытэт сучасных творцаў Міншчыны. Гэта пацвердзіла і сёлетняя паездка літаратараў у вёску Станькава па мясцінах, дзе жыве памяць пра гераічныя падзеі мінулага. Існуе глыбокае перакананне ў тым, што цяпер на змену ветэранам, якіх, на жаль становіцца ўсё менш, павінны прыйсці менавіта пісьменнікі, каб не засталося недапісаных старонак вайны, каб кожны з яе герояў быў ушанаваны. Гэта стала лейтматывам і адной з нядаўніх перадач на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё «Пісьменнікі Міншчыны пра вайну».

Такой жа прыцягальнай, шчымліва роднай і блізкай застаецца тэма радзімазнаўства. Шматлікія публікацыі ў прэсе, новыя выданні папаўняюць звесткі пра мінулае Міншчыны, багатае на адметныя падзеі, знакамітае выбітнымі асобамі. Іван Ярашэвіч, Барыс Савіная працягваюць лепшыя традыцыі заўзятых краязнаўцаў.

А вось песенная творчасць — гэта найноўшы кірунак праяўлення талентаў Мінскага абласнога аддзялення СПБ. Яркім удзелам у розных фестывалях і конкурсах пракладаюць свой зорны шлях паэты-песеннікі Таццяна Атрошчанка, Кастусь Цыбульскі, Уладзімір Цанунін.

Значна ажывіла творчае жыццё абласной пісьменніцкай арганізацыі створаная на яе базе вочна-завочная школа «Са-Творчасць». Яе мэта — адшукаць юных аматараў мастацкага слова, каб падтрымаць іх першыя крокі ў, магчыма, вялікую літаратуру. Ірына Карнаухава, Таццяна Якаўлевіч і Бажэна Ганушкіна, аб'яднаўшы вакол сябе амаль 50 вучняў школ вобласці, з поспехам рэалізоўваюць гэты літаратурна-педагагічны праект. Своеасаблівы філіял школы «Са-Творчасць» — літаратурны клуб «Ізяслаўцы» — дзейнічае ў Заслаўі. Кіруе ім Святлана Быкава. Сёлета яна разам з вучнямі трох навучальных устаноў горада стварыла калектыўны зборнік «Струмені заслаўскай крынічкі». У ім прадстаўлена не толькі творчасць пачынаючых паэтаў і празаікаў — кніга ілюстраваная работамі юных мастакоў з мясцовай мастацкай школы.

Прыемна і тое, што ў розных раёнах Міншчыны працуюць 11 літаратурна-паэтычных і літаратурна-музычных аб'яднанняў. Да таго ж, на базе многіх школ вобласці створаны літаратурныя музеі. Таму і ў планах Мінскага абласнога аддзялення СПБ — пашырыць узаемадзеянне з творчымі калектывамі на месцах. Каб, аб'яднаўшыся, разам зрабіць мастацкае слова яшчэ больш уплывовым, каб з яго дапамогай пераконваць грамадства ў вартасці сапраўдных каштоўнасцей і ідэалаў, як бы пафасна гэта ні гучала.

Нагода чарговага з'езда пісьменніцкай грамадскасці краіны дае падставы кожнаму пісьменніку задумацца і пра ўласную ролю творцы, і падсумаваць творчыя здабыткі за не такі ўжо і малы час — пяць гадоў. Вось з такімі хвалюючымі думкамі, уласнымі грунтоўнымі развагамі пісьменнікі Міншчыны рыхтуюцца да свайго форуму. Важна, каб было пачута іх самае галоўнае слова: у грамадстве павінны панаваць мір і згода.

**Алена СТЭЛЬМАХ,**
**намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ**

# …І тэатр паэзіі



У актыве пісьменнікаў Мінскага гарадскога аддзялення СПБ — а гэта амаль 300 чалавек! — звыш 650 кніг, тысячы публікацый у калектыўных зборніках, перыядычных выданнях Беларусі, Расіі, блізкага і далёкага замежжа. Дзясяткі кніг паэтаў, празаікаў, драматургаў, сатырыкаў, публіцыстаў, літаратуразнаўцаў, дзіцячых аўтараў сталіся гонарам беларускай літаратуры.

На рахунку нашых пісьменнікаў сотні прэстыжных узнагарод, рэспубліканскіх і міжнародных літаратурных прэмій, званняў. У тым ліку і дзяржаўных. Заслужанымі дзеячамі культуры сталі Генадзь Пашкоў і Мікалай Чаргінец. Медалём Францыска Скарыны ўганараваны Сяргей Трахімёнак, Міхаіл Шыманскі, Віктар Праўдзін, Васіль Шырко, Алесь Бадак, Навум Гальпяровіч, Іван Капыловіч, Уладзімір Мазго, міждзяржаўнай прэміяй «Зоркі садружнасці» — Алесь Бадак і Мікалай Чаргінец. Лаўрэатам прэміі Саюзнай дзяржавы стаў паэт-песеннік Іван Юркін (у суаўтарстве з Анатолем Ярмоленкам і Алегам Елісеенкавым).

Падзякай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь адзначаны Ніна Галіноўская, Казімір Камейша, Ніна Чайка. Спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры ўзнагароджаны паэт Мікола Мятліцкі, публіцысты Анатоль Статкевіч-Чабаганаў і Анатоль Шаркоў, Нацыянальнай літаратурнай прэміяй — празаікі Уладзімір Саламаха, Алесь Марціновіч, Сяргей Давідовіч, публіцыст Міхаіл Шыманскі, драматург Ягор Конеў, маладыя літаратуразнаўцы Дзяніс Марціновіч і Таццяна Мацюхіна.

Наша аддзяленне праводзіць велізарную культурна-асветніцкую работу. За пяць гадоў зладжана больш як 2 тысячы мерапрыемстваў. У самых розных установах і арганізацыях прайшлі дзясяткі тысяч пісьменніцкіх выступленняў. Адкрыты Мінскі гарадскі тэатр паэзіі, літаратурнае кафэ, шматлікія творчыя клубы, студыі. Вельмі папулярнымі сталі Мінскія паэтычныя чытанні, заснаваны Мінскі гарадскі фестываль беларускай паэзіі і песні, фестываль маладой паэзіі і г. д.

Асабліва плённа працуюць нашы літаратурныя клубы «Парнас» (пры публічнай бібліятэцы № 5), «Спадчына» (пры гімназіі № 35), клуб творчых жанчын «Спадарыня» (пры музеі Якуба Коласа), студыя юных літаратараў «Маліна́ўскія галасы», студыя мастацкага чытання «Вобраз» і г. д. Многія нашы пісьменнікі ўзначальваюць літаратурныя аб'яднанні пры бібліятэках і навучальных установах. Вельмі цікава і шырока праходзяць Дні праваслаўнай культуры, дзе на працягу больш як месяца нашы пісьменнікі выступаюць на самых розных пляцоўках горада на вечарах і канцэртах духоўнай паэзіі і песні, музыкі (тут як арганізатар шчыруе наша пісьменніца Тамара Левішко, актыўна ўдзельнічаюць Алена Міхаленка, Валянціна Паліканіна, Наталія Касцючэнка, Вольга Шпакевіч, Лізавета Палеес ды іншыя).

Пісьменнікі аддзялення рэгулярна далучаюцца да рэспубліканскіх і гарадскіх акцый «Беларусь, я люблю цябе!», «Лета з добрай кнігай», «Чытаем класіку разам», «Чытаем па-беларуску», «Падаруй кнігу школе» і г. д.

Плённа працуем і з маладой літаратурнай зменай: ад выяўлення юных літаратурных талентаў да прыёму ў члены СПБ. Шматлікія творчыя конкурсы, Школа юнага паэта, Школа юнага празаіка, кансультацыі, рэдагаванне твораў, дапамога ў публікацыях, выданне кніг, арганізацыя творчых выступленняў юных талентаў… З аўтараў 19 кніг серыі «Мінскія маладыя галасы» ў СПБ прынятыя ўжо 13 чалавек!

Многія маладыя творцы, такія як Маргарыта Латышкевіч, Дзяніс Марціновіч, Людміла Клачко, Ганна Мартынчык, маюць рэспубліканскія і міжнародныя літаратурныя прэміі. Радуе поспехамі паэтэса, празаік і перакладчык Яна Явіч. Для маладых мы заснавалі і штогадовую літаратурную прэмію «Адкрыццё года», якая ўручаецца найбольш таленавітым літаратарам ва ўзросце да 30 гадоў.

Актыўна супрацоўнічаем з Маскоўскай гарадской, Санкт-Пецярбургскай, Цюменскай арганізацыямі Саюза пісьменнікаў Расіі, з пісьменніцкімі саюзамі Дагестана, Калмыкіі, з замежнымі перыядычнымі выданнямі. А гэта ўзаемапублікацыі, узаемапераклады, сумесныя нумары выданняў, сумесныя зборнікі твораў. Ладзім шмат літаратурных вечароў класікаў рускай і сусветнай літаратуры.

Трэці з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі акрэсліць пытанні і праблемы, якія трэба вырашаць. Спадзяюся, што ў пісьменнікаў будзе магчымасць сказаць пра іх. Але ўвесь спектр пытанняў пісьменніцкага жыцця мы можам і павінны дэталёва абмяркоўваць на сходах аддзяленняў, на пасяджэннях творчых секцый, прыёмнай камісіі, на пленумах, прэзідыумах і сакратарыятах СПБ. Дарэчы, варта стварыць дзейсны сакратарыят СПБ, які б каардынаваў усю працу творчай арганізацыі, і абраць праўленне СПБ, якое зможа арганізаваць гэтую працу на патрэбным узроўні.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ**



*Фота Кастуся Дробава.*

*Падчас пісьменніцкіх сустрэч.*

# Каб застацца запатрабаванымі



З'езд для Саюза пісьменнікаў Беларусі — адна з вяршынных з'яў, якія абавязваюць засяродзіць увагу на пройдзеным шляху, падлічыць набыткі і згубы, акрэсліць новыя кірункі і перспектывы.

Пісьменнікі Гродзенскага абласнога аддзялення падышлі да трэцяга з'езда не так пафасна, як хацелася б, таму што побач з цікавымі пачынаннямі — расчараванні, і — развагі. Свет імкліва змяняецца. Літаратуры цяжка паспець за гэтым працэсам. У перыяд усеагульнай мадэрнізацыі розных галін нашага жыцця (эканомікі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі) мы павінны мадэрнізаваць сваю свядомасць. Літаратар і чытач сёння ідуць насустрач адзін аднаму зусім іншымі шляхамі, чым дзесяць гадоў таму. Калі хтосьці не паспеў, не здолеў перабудавацца, гэтай сустрэчы адбыцца не наканавана. Каб заставацца запатрабаванай, сучаснай, літаратуры неабходна глядзець у дзень заўтрашні, а то і яшчэ далей. Патрэбны новыя формы працы, новыя пазіцыі. З гэтай нагоды прапануем скарэкціраваць эгаістычную ўстаноўку («А што Саюз дасць мне?»), з-за якой часам губляем пісьменнікаў, так: «Што Я-пісьменнік значу для Саюза, хто я ў ім і што дае краіне і літаратуры мая прысутнасць у Саюзе?» І, паверце, калі кожны з нас справядліва прааналізуе ўласную творчасць, то не будзе прычын заставацца незадаволеным і крыўдзіцца на кіраўніцтва. Шукайце недахопы ў сабе.

Лічым, што кожнаму абласному аддзяленню патрэбна канкрэтная падтрымка з боку дзяржавы. Варта нагадаць супрацоўнікам аблвыканкамаў, што літаратура — вялікая і вельмі важкая частка агульнай культуры. На мерапрыемствы, дзе прысутнасць пісьменнікаў аддзялення, лічу, не павінна нават абмяркоўвацца (калегія ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі, напрыклад), нас, на жаль, не запрашаюць. У Гродне праходзіць традыцыйны фестываль «Аўгустоўскі канал у культуры трох народаў». На жаль, літаратары Гродзеншчыны ў каторы раз у ім не ўдзельнічаюць. Няўжо мы паступова перасталі атаясамліваць літаратуру з культурай?!

Пытанне фінансавання — самае балючае. Абласныя аддзяленні маюць патрэбу ў мэтавым фінансаванні на паездкі па рэгіёне і краіне, а таксама на матэрыяльную дапамогу ў выпадку хваробы або смерці калегі. Той часткі гадавых унёскаў, што застаецца ў абласцях, на гэта не хапае. Сума камандзіровачных выдаткаў павінна адпавядаць выдаткам на паездку, а не быць сімвалічнай.

Міжнародныя праекты зрываюцца не з-за іх адсутнасці, а з-за адсутнасці фінансавання і сувязі з дыпламатычнымі каналамі. У гэтым пісьменнікам патрэбна падтрымка на дзяржаўным узроўні (атрыманне віз, напрыклад). Мы вельмі жадаем адрадзіць распачаты сем гадоў таму міжнародны грамадска-літаратурны праект «Памежны трохкутнік: Гродна — Брэст — Беласток». Праект замарожаны менавіта з-за недахопу фінансавання. З гэтай жа прычыны сёлета ў вобласці сарваныя два традыцыйныя грамадска-літаратурныя праекты: абласны конкурс рукапісаў імя Цёткі (А. Пашкевіч) і выхад чарговага нумара абласнога літаратурнага альманаха «На Нёманскай хвалі».

Практычна адсутнічае зваротная сувязь з літаратурнымі перыядычнымі выданнямі і выдавецтвамі. Аўтар, які паслаў свой матэрыял у часопіс або газету, недасведчаны наконт якасці і лёсу рукапісу; яму застаецца самому абіваць парогі і абрываць тэлефоны…

Хачу звярнуць увагу СПБ і Міністэрства інфармацыі яшчэ на адзін факт. На мой погляд, пытанні літаратуры не асвятляюцца належным чынам у газетах Гродзенскай вобласці, на абласным і гарадскім радыё. Спецыяльныя рубрыкі (літаратурныя старонкі), дзе ёсць магчымасць публікаваць, а таксама абмяркоўваць і рэцэнзаваць творы мясцовых аўтараў, у тым ліку і пачаткоўцаў, існуюць у многіх раённых газетах Гродзенскай вобласці (Ваўкавыскай, Воранаўскай, Слонімскай, Шчучынскай, Зэльвенскай ды інш.), прычым не толькі ў папяровых версіях, але і на інтэрнэт-сайтах, а вось у «сталіцы» вобласці — Гродне — яны адсутнічаюць.

Наша моладзь чытае вельмі мала і практычна не ведае сучаснай літаратуры Беларусі. Неабходна больш актыўнае супрацоўніцтва з кіраўніцтвам сістэмы адукацыі, абласным і раённымі аддзеламі адукацыі, сумесныя праекты (брыфінгі, круглыя сталы, семінары) для прыцягнення ўвагі да роднай сучаснай літаратуры і ўнясення карэктыў у праграму вывучэння літаратуры ў школах і ВНУ з улікам актуальнага матэрыялу.

Ёсць праблемы з падпіскаю на беларускія выданні. Прааналізаваўшы сітуацыю па вобласці, мы высветлілі, што ў некаторых бібліятэках не было падпіскі на адзін з кварталаў на перыёдыку Выдавецкага дома «Звязда»: у Карэлічах, у Скідзелі Гродзенскага раёна. Даведаліся мы таксама і пра тое, што некаторым бібліятэкам вылучаецца на падпіску менш за абавязковыя 15%.

Лічу, што падпісной кампаніі значна шкодзяць інтэрнэт-сайты газет і часопісаў, многія чытаюць матэрыялы там. Але ж можна змяшчаць на сайце толькі частку матэрыялаў (20 — 30%, як гэта робіцца ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Карскага з алічбаванай літаратурай), астатняе людзі будуць вымушаны дачытваць з папяровага носьбіта.

Але, нягледзячы на згаданыя праблемы і пытанні, пісьменнікі Гродзеншчыны з аптымізмам глядзяць у заўтрашні дзень, вераць у шчасную долю беларускай літаратуры, з кожным годам сталеюць у думках і творах, імкнуцца да паразумення і самаўдасканалення. Сёння нам ёсць кім і чым ганарыцца. Мы ўпэўнены ў правільнасці абраных напрамкаў, скіраваных на развіццё рэгіянальнай літаратуры Гродзеншчыны з улікам мясцовага каларыту, эстэтычных, сацыяльна-псіхалагічных ды іншых асаблівасцей. Упэўненыя, што, каб забяспечыць прэферэнцыі для айчыннай літаратуры, усім пісьменнікам разам трэба супрацьстаяць сваімі творамі замежнай манаполіі на запаўненне кнігамі беларускіх бібліятэк, а кіраўніцтву СПБ — падтрымаць гэты кірунак. Вялікая літаратура нараджаецца не толькі ў сталіцах.

**Людміла КЕБІЧ,**
**старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ**

# Слова, што аб'ядноўвае

**Пра шчодры творчы ўраджай, які дзеляцца з чытачамі пісьменнікі Гомельшчыны, распавядае старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, празаік і публіцыст Уладзімір Гаўрыловіч.**



— Гомельшчына сёлета прымала XXIII Дзень беларускага пісьменства… Безумоўна, менавіта гэтае свята падштурхнула абласную пісьменніцкую арганізацыю распачаць актыўную падрыхтоўку нашмат раней. Яшчэ на пачатку года ў пісьменнікаў выспела ідэя спалучыць акцыю дзяржаўнай важнасці з нашымі традыцыйнымі гадавымі літаратурнымі падзеямі, ініцыятарамі якіх заўсёды выступала гомельская пісьменніцкая сябрына.

Гэта найперш X Міжнародны фестываль-свята «Славянскія літаратурныя дажынкі». Па меркаванні чытачоў ды гасцей — пісьменнікаў з краін СНД, мясцовых літаратараў, — сёлетняе свята прайшло вельмі ярка і насычана…

Не толькі гэты юбілейны фестываль (яго, дарэчы, мы ладзім дзякуючы падтрымцы фундатараў) патрабаваў нашай увагі. Фінансавая частка — важкі клопат для грамадскага аб'яднання, а гэтае пытанне вырашаць няпроста. Але ж мы, беларусы, вельмі гасцінныя і не можам, ды і не маем права кепска прыняць госця! Таму і стараліся зрабіць усё як належыць.

А яшчэ ж трэба было завяршыць шэраг абласных літаратурных конкурсаў і творчых акцый. Напрыклад, шмат высілкаў аддалі на правядзенне абласнога конкурсу чытальнікаў «Захаваем свет разам!», прысвечанага 95-годдзю Андрэя Макаёнка. Конкурс крочыў па Гомельшчыне з лютага па верасень, больш як 1400 вучняў агульнаадукацыйных школ, гімназій выбіралі лепшыя ўзоры паэзіі і прозы класікаў беларускай літаратуры і сённяшніх літаратараў — сяброў СПБ, і на працягу трох этапаў — школьнага, раённага і абласнога — аўтарытэтнае журы, у якім працавалі і пісьменнікі Гомельшчыны, выбірала лепшых чытальнікаў. Прайшло шмат школьных, раённых і абласных літаратурных свят, дзе гучала слова пісьменніка. Апагеем жа стаў 4-ы, выніковы, этап, калі ў прысутнасці вялікай аўдыторыі, падчас адкрыцця X міжнароднага фестывалю «Славянскія літаратурныя дажынкі» (было шмат гасцей-пісьменнікаў з Расіі і Украіны) кранальна выступалі дзеці, а дарослыя выбіралі ўладальніка Гран-пры. Дарэчы, прыемна было чуць ад літаратараў-расіян, што дзякуючы юным беларусам яны зразумелі і палюбілі беларускую мову...

Многія пісьменнікі і маладыя літаратары бралі ўдзел (і былі адзначаны) у абласным літаратурным конкурсе «Праваслаўе — мая надзея». Было арганізавана яркае свята славянскіх культур у гарадскім цэнтры культуры г. Гомеля, прэзентацыі на малой радзіме Андрэя Макаёнка, пасадка алеі ў гонар 10-годдзя Саюза пісьменнікаў Беларусі, цёплыя сустрэчы з чытачамі і калегамі ў самім Рагачове… За ўсім — і клопат абласной арганізацыі.

Гэта быў экзамен на сталасць. Дзякуючы падтрымцы мясцовых органаў улады і фундатараў мы ажыццявілі важкую выдавецкую праграму. Па шчырасці, калі агледзеліся, то здзівіліся выніковасці ўсёй працы. Найперш, для бібліятэчнай сістэмы вобласці апарат аддзялення падрыхтаваў плакаты «Літаратурная Гомельшчына» з фотаздымкамі і кароткай біяграфіяй нашых калег, вырабілі для бібліятэк рэгіёна падарункавыя наборы буклетаў (кожны змяшчае інфармацыю аб аддзяленні і 57 буклетаў, прысвечаных творчасці ўсіх сяброў нашай арганізацыі). Выдадзены ў цвёрдай вокладцы 13-ы альманах аддзялення, у якім, дарэчы, прадстаўлены не толькі творы маіх калег, але і маладыя аўтары, сябры аматарскага літаб'яднання Палаца культуры ААТ «Гомсельмаш». У серыі «Бібліятэка Гомельскага аддзялення СПБ» падрыхтавалі зборнік п'ес сучасных гомельскіх драматургаў «Паслядоўнікі Макаёнка. Айчына ў сэрцах і душах»... Ды і пісьменнікі вобласці не сядзелі склаўшы рукі: выйшлі з друку больш як 25 кніг.

Пэўна, варта згадаць конкурс рукапісаў на саісканне абласной літаратурнай прэміі імя Кірылы Тураўскага.

У Рагачове былі ўганараваны ў чатырох жанравых намінацыях за рукапісы кніг сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Болсун, Яўген Калашнікаў, Алег Ананьеў, а таксама паэтэса, выкладчык ГДУ імя Ф. Скарыны Алена Асенчык. Дыпломы і грашовыя прэміі аблвыканкама, выдадзеныя па выніках конкурсу кнігі ўручыў старшыня абласнога Савета дэпутатаў Алег Барысенка на галоўнай сцэне Дня беларускага пісьменства. Званне ганаровага грамадзяніна Рагачоўскага раёна было прысвоена вядомаму пісьменніку, драматургу Васілю Ткачову.

Юным творцам у аддзяленні — немалая ўвага: маладыя аўтары-гамяльчане працавалі на многіх літаратурных пляцоўках побач з прафесіяналамі, майстрамі слова з Расіі і Украіны.

Яшчэ на міжнародным фэсце «Славянскія літаратурныя дажынкі-2015» адбыліся нашы перамовы з прадстаўнікамі Краснадарскай краявой пісьменніцкай арганізацыі і пісьменнікамі Растоўскай вобласці. Прынялі сумеснае рашэнне, датычнае новага творчага праекта, які злучыць у сутворчасці маладых пісьменнікаў з Беларусі, Расіі і Украіны. Цэлы год маладыя аўтары з Гомеля і Гомельскай вобласці (да іх далучыліся з Мінска і Мінскай вобласці, Краснадарскага краю, Растоўскай вобласці, з Луганска і Данецка) пад куратарствам пісьменнікаў-прафесіяналаў працавалі над перакладамі твораў сваіх маладых калег. Такім чынам, слова і валоданне славянскімі мовамі аб'ядналі маладых паэтаў з Беларусі, Расіі і Украіны. Карпатлівая праца ўвасобілася ў 46 літаратурных зборніках, якія ў выніку праекта выдадзены расійскім бокам. І нядаўна наша дэлегацыя, у склад якой увайшлі сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі і маладыя паэты і перакладчыкі, накіравалася ў Растоўскую вобласць, дзе ўзялі ўдзел у І Міжнародным моладзевым фестывалі «Берагі дружбы», які ладзіўся ў межах шостага фестывалю нацыянальных культур у с. Пакроўскае Някліноўскага раёна. Фестываль выдаўся цікавы, насычаны падзеямі. Прадстаўнікі нашай творчай моладзі ўпершыню сабраліся разам пасля таго, як пазнаёміліся завочна, і, што адметна, сустрэліся як родныя (відаць, з'яднала супраца над перакладамі).

І яшчэ на гэтым фестывалі шэсць нашых маладых літаратараў перамаглі ў конкурсе паэтычнай творчасці і перакладаў. Так, першае месца заняў студэнт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Сяргей Прывалаў. Нашы партнёры (найбольш пастараўся сябра і калега, арганізатар і каардынатар праекта «Берагі дружбы» Леанід Север і яго паплечнікі па пяры) знайшлі магчымасць выдаць для многіх маладых паэтаў іх першую кнігу. Ужо таму фестываль на беразе Азоўскага мора для многіх стаўся знакавым і запамінальным. Гэта прыклад таго, як слова аб'ядноўвае нават за тысячы кіламетраў. І для нас, славян, гэта зусім не адлегласць...

**Дзяніс ІВАНОЎ**

Фота Кастуся Дробава.




*Пісьменнікі на сёлетняй Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы.*

# Адзігітрыя ў горадзе над Заходняй Дзвіной



Віцебскае абласное аддзяленне СПБ аб'ядноўвае 40 літаратараў, якія жывуць у розных кутках Віцебшчыны. За пяць гадоў намі выдадзена 268 кніг для дарослай і дзіцячай аўдыторыі ў самых розных жанрах, 14 з іх былі адзначаны абласнымі, рэспубліканскімі і міжнароднымі літаратурнымі прэміямі. Лаўрэатамі сталі паэты Мікалай Намеснікаў (Віцебск) і Алесь Жыгуноў (Глыбокае), Віктар Улюценка (Шуміліна), дзіцячыя пісьменнікі Галіна і Сяргей Трафімавы (Орша) ды інш. Прэміяй Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі летась адзначаны дзве кнігі Фёдара Палачаніна.

Толькі за апошнія пяць гадоў пісьменнікі Віцебшчыны правялі больш як 3 тысячы сустрэч з чытачамі ва ўстановах культуры, адукацыі, вытворчых калектывах і воінскіх часцях. Найбольш масавыя мерапрыемствы — літаратурныя чытанні ў Віцебскай духоўнай семінарыі Епархіяльнага ўпраўлення, вечары патрыятычнай паэзіі ў Віцебскім Дзяржаўным медыцынскім універсітэце, прэзентацыі кніг. Асабліва цікавы штогадовы Міжнародны фестываль духоўнай паэзіі і песні «Адзігітрыя», што ладзіцца сумесна з Віцебскай дыяцэзіяй. Гала-канцэрт у Летнім амфітэатры збірае больш як 4500 слухачоў.

Палюбіліся нашым чытачам і вечары песні ў Глыбоцкім і Аршанскім палацах культуры, якія правялі Алесь Жыгуноў і Канстанцін Нілаў, фальклорна-літаратурныя музычныя святы: у Гарадку «Тарас на Парнасе», у вёсцы Алашкі Шаркаўшчынскага раёна «Светлы яблычны Спас — Сікораўскай душы часцінка», акцыя «Дзень роднай мовы» ў Паставах. Яны праводзяцца штогод з удзелам нашых выдатных пісьменнікаў Кацярыны Сосна, Міледзія Кукуця, Уладзіміра Крайнева, Алеся Жыгунова, Ігара Пракаповіча ды іншых.

У дзіцячых бібліятэках і школах вобласці працуюць 8 паэтычных клубаў для дзяцей. А ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава — студэнцкая літаратурная гасцёўня «Радком нягучным» (кіраўнік паэтэса Алена Крыклівец).

У год праводзім да 5-7 літаратурных конкурсаў сярод моладзі. Самыя масавыя — «Зорка Венера», прысвечаны М. Багдановічу, «Калыска мая — Беларусь», «Купала і Колас, вы нас гадавалі», «Град над Заходняй Дзвіной»... За 5 гадоў праведзена 17 такіх конкурсаў. Акрамя таго, у Віцебску штогод арганізуецца літаратурны мітынг ля помніка А. С. Пушкіну з удзелам Віцебскіх пісьменнікаў і пераможцаў моладзевых літаратурных конкурсаў, прысвечаны святу горада. Сёлета ў межах фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» нашы паэты ўзялі ўдзел у праекце «1000 вершаў пра Віцебск». Віцебскае абласное аддзяленне СПБ актыўна ўдзельнічае ў акцыях «Лета з добрай кнігай» і «Сямейнае чытанне». Летам пісьменнікі выступаюць у школьных і аздараўленчых лагерах.

Сумесна са СМІ вобласці мы распрацавалі два пастаянныя праекты: «Натхненне» з абласной газетай «Витебские вести» і «Літаратурны клуб» — з гарадской газетай «Віцьбічы», якія штоквартальна выпускаюць падрыхтаваныя намі літаратурныя палосы.

У найбліжэйшых планах пісьменнікаў Віцебшчыны — папулярызацыя лепшых узораў айчыннай літаратуры, удзел у творчых конкурсах, падтрымка маладых талентаў.

**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА,**
**старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ**

# Прэса — апірышча творцы

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ, якое ўзначальвае празаік і публіцыст Анатоль Крэйдзіч, таксама рыхтуецца да з'езда.**



Як паведамілі ў сакратарыяце Саюза пісьменнікаў Беларусі, за пяць год брэсцкімі пісьменнікамі выдадзена каля сотні новых арыгінальных цікавых кніг у мясцовых і сталічных выдавецтвах, праведзена каля тысячы сустрэч з чытачамі. Наладжаны шырокія міжнародныя стасункі.

Што да рэгіянальнай прэсы, дык яна заўсёды была і застаецца апірышчам пісьменніка. Прынамсі, на Брэстчыне. У вядучай і старэйшай абласной газеце «Заря» штомесяц выходзіць не проста літаратурная старонка («Зараніца»), а разварот. Літвыпуск знаёміць чытачоў не толькі з новымі творамі берасцейцаў, але і дае агляды апублікаванага ў «Маладосці», «ЛіМе», «Полымі», «Нёмане», газеце «Звязда», анансуе жыхарам Брэстчыны літаратурныя конкурсы Саюзнай дзяржавы (да прыкладу, «Мост дружбы»), беларускія, абласныя літконкурсы, распавядае пра кнігі берасцейцаў, падзеі ў літаратурным жыцці...

Яшчэ адна дзяржаўная абласная беларускамоўная газета «Народная трыбуна» таксама штомесяц выдае літаратурную старонку — «Берасцейскае вогнішча», інфармацыйна падтрымлівае абласное аддзяленне СПБ. Дарэчы, амаль у кожным нумары! А член Саюза пісьменнікаў Беларусі Вячаслаў Бурдыка, адказны сакратар гэтага выдання, заснаваў аўтарскі праект «Берасцейскія дыяменты», дзе распавядае пра лаўрэатаў абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка. Ужо выйшла каля дзясятка нарысаў. Пасля яны складуць адмысловую кнігу.

Літаратурныя старонкі ёсць і ў раённых, гарадскіх, аб'яднаных газетах. Тут творы мясцовых паэтаў і празаікаў, агляды літаратурнай пошты, паведамленні пра конкурсы і абавязкова — матэрыялы, якія прадстаўляюцца абласным аддзяленнем. Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ, у сваю чаргу, заснавала прэмію для рэгіянальных СМІ і журналістаў за лепшае асвятленне дзейнасці СПБ і прапаганду творчасці пісьменнікаў Брэстчыны. Гэтая практыка будзе захавана і надалей.

Брэсцкае абласное аддзяленне працуе з юнымі талентамі, лепшых прымае ў саюз. Маладыя творцы шырока друкуюцца ў літаратурнай перыёдыцы краіны, вобласці, сваіх рэгіёнаў. Абласная пісьменніцкая арганізацыя спрыяе выданню кніг, праводзіць шматлікія імпрэзы, умацоўвае стасункі з органамі мясцовай улады і іншымі грамадскімі арганізацыямі.

# Агледзім і падсумуем

**Якая роля з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі ў культурным і грамадскім жыцці краіны? Што ён значыць для літаратараў? На гэтыя пытанні адказваюць айчынныя творцы — сябры СПБ.**

**Генадзь ПАШКОЎ,**
**першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт:**



— Пісьменніцкія з'езды, своеасаблівыя агледзіны здзейсненага за пэўны перыяд, дзе аналізуюць недахопы працы творчай арганізацыі, падсумоўваюць творчыя набыткі і абмяркоўваюць планы на будучыню, праводзяцца яшчэ з савецкіх часоў. З'езд Саюза пісьменнікаў — маштабная падзея ў культурным і грамадска-палітычным жыцці. Я быў дэлегатам з'ездаў 70-х гадоў (член Саюза пісьменнікаў з 1974-га), калі, наіўны студэнт, працаваў спачатку на радыё, а потым — у рэдакцыі часопіса «Полымя». На пісьменніцкія з'езды (пасяджэнні, як правіла, ладзіліся ў Палацы культуры прафсаюзаў) заўсёды ішлі ахвотна. Туды стараліся патрапіць і людзі, якія, па вялікім рахунку, не мелі дачынення да літаратуры. Выступленні атрымліваліся вельмі яркімі, нечаканымі, смелымі па тым часе, і пісьменніцкія з'езды ўспрымаліся як вельмі вострае, глыбокае і разам з тым жывое дзейства, бо абмяркоўваліся самыя розныя пытанні. Сярод выступоўцаў былі Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Іван Шамякін, Іван Мележ, Антон Бялевіч, Анатоль Вялюгін…

Пісьменніцкія з'езды заўсёды былі своеасаблівым усенародным веча шырокага абмеркавання жыцця. Далёка не толькі літаратурнага! А хто, як не пісьменнік, ведаў гэтае жыццё не па статыстычных лічбах, а ўласным судакрананнем з жыццёвымі праявамі, уменнем слухаць і чуць народ.

Прыгадваю, я тады здымаў жыллё па вуліцы Веры Харужай. Вяртаюся пасля працы з рэдакцыі часопіса «Полымя». Бачу: на аўтобусным прыпынку насупраць знакамітай Камароўкі жанчыны надзвычай ажыўлена гамоняць. А побач на лаве — прыгнутая постаць, прыкрытая шырокаю шапкай са штучнага каракулю. Гэткую насіў мой знаёмы. Чалавек нешта піша, піша. Таропка. «Дык гэта ж празаік Міхась Вышынскі!» — пазнаю я.

— А дзе, браце, жыццё ўведаць, як не ў народзе? — крыху збянтэжана тлумачыў Міхась.

Усё ўбачанае, падслуханае, пачутае, а часам і асабіста перажытае, не раз агучвалася на пісьменніцкіх з'ездах. Таму шмат для каго яны былі такімі прыцягальнымі…

У ІІІ з'ездзе СПБ, што адбудзецца ў вялікай зале Белдзяржфілармоніі, возьмуць удзел звыш 600 дэлегатаў і госцей, у тым ліку каля 30 замежных. Ёсць што абмеркаваць і прааналізаваць, бо на кожны з апошніх пяці гадоў прыпадае больш як па 300 назваў кніг сяброў СПБ. І ёсць што ўдасканальваць у працы рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі: не толькі творчай, але і грамадскай.

**Ліліяна АНЦУХ,**
**дырэктар і галоўны рэдактар выдавецтва «Чатыры чвэрці»:**



— З'езд — гэта заўсёды магчымасць для пісьменнікаў зверыць гадзіннікі: падсумаваць пройдзенае, пабудаваць далейшыя планы.

З дастатковым веданнем справы магу гаварыць пра ролю выдавецтва «Чатыры чвэрці» ў прасоўванні твораў беларускіх літаратараў, пашырэнні ведаў пра беларускую літаратуру ў свеце. Вялікую ўвагу надаём пошуку новых аўтараў.

У першую чаргу добра вядомая серыя «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі». Як і заўсёды, мы ўдумліва і скрупулёзна адбіраем і аўтараў, і творы. Да вялікай радасці, ужо падрыхтавана і выдадзена больш за 20 кніг. Сёлета амаль чатыры аўтары былі вылучаны на Нацыянальную літаратурную прэмію. І паэт Мар'ян Дукса, над кнігай якога «Птушка вечнасці — Душа» выдавецтва шмат папрацавала, яе атрымаў. Лічу, што гэта і выдавецкая перамога. Хацелася б заўважыць, што, напрыклад, у братняй Расіі ёсць досвед, калі сярод іншых намінацый у конкурсах адзначаецца і ўдзел выдавецтваў. Прапанавала б пераняць гэтую традыцыю. На мой погляд, не была б залішняй сярод тых, што ўжо існуюць, намінацыя «Выдавецтва, якое прапагандуе творчасць беларускага пісьменніка». Тым самым і выдаўцоў натхнілі б на яшчэ больш плённую працу ў гэтым кірунку.

Заахвочваем трапяткія адносіны да творчасці маладых аўтараў. Добра разумеем, што тым самым мацуем падмурак для будучыні і Саюза, і літаратуры ў цэлым. Ужо падрыхтаваны або ўбачылі свет творы тых аўтараў, якіх мы гатовы прапанаваць для разгляду прыёмнай камісіі СПБ.

Сістэматычна папаўняліся таленавітымі творамі празаікаў і паэтаў серыі кніг «Дзеці вайны», «Несур'ёзна пра сур'ёзнае», «Асоба і час». Шмат хто з нашых аўтараў ужо прыйшоў да чытача праз электронную кнігу, якая прадаецца на сайтах *litres.ru* і *ozon.ru*.

Хачу звярнуць увагу на новую ініцыятыву выдавецтва: сёлета пры ўдзеле Мінгарвыканкама створана серыя «Мінская гарадская бібліятэка», мэта якой — паказаць свету (у раздзеле «Літаратура») найлепшыя, знакавыя творы беларускіх аўтараў на рускай мове. Першыя кнігі ўжо ўбачылі свет.

Набліжаецца 950-годдзе нашай сталіцы. Літаратараў чакае яшчэ адна прапанова ад выдавецтва: абвешчаны конкурс «Мінск — горад майго лёсу» на лепшы твор, прысвечаны гораду. Больш падрабязна пра гэта можна даведацца на сайце *www.4-4.by*.

Напярэдадні з'езда без сумнення можна сцвярджаць: нам ёсць на што азірнуцца, каб упэўнена крочыць наперад. Але пытанняў, якія і на з'ездзе, і пасля яго трэба абмяркоўваць і вырашаць, шмат. І галоўнае сярод іх — як захаваць у сучаснасці культурную і асветніцкую місію кнігі.

**Мікола МЯТЛІЦКІ,**
**паэт, перакладчык:**



— Сімвалічна ўжо тое, што на пісьменніцкім з'ездзе мы будзем падводзіць вынікі цэлага дзесяцігоддзя дзейнасці нашай творчай арганізацыі. Спадзяюся, што і ў справаздачах кіраўнікоў Саюза, і ў выступленнях пісьменнікаў будзе сказана доказна пра нашы творчыя здабыткі, а таксама будуць акрэслены надзённыя праблемы, якія патрабуюць вырашэння.

Адна з такіх — выданне паэзіі дзяржаўнымі выдавецтвамі. Арыгінальная паэтычная кніга ўжо практычна знікла з выдавецкіх планаў. Матывацыя выдаўцоў — чытацкая незапатрабаванасць. Аднак у развіцці нацыянальнай літаратуры не павінна быць гэтага прагалу. Тут патрэбна падтрымка і сталым паэтам, і маладым аўтарам. Кожная таленавітая арыгінальная кніга мае права «паказацца на людзі». Можа, варта ўкараняць вядомую ў свеце практыку: рабіць пэўныя фінансавыя адлічэнні ад продажу імпартнай кніжнай прадукцыі на карысць развіцця айчыннай літаратуры? Многія актыўна пярэчаць гэтаму з часоў камерцыялізацыі кніжнай галіны. Складваецца ўражанне, што чыноўнікі часам выступаюць лабістамі інтарэсаў прыватных, а не дзяржаўных.

Мы будзем гаварыць і аб прафесійнай пісьменніцкай дзейнасці, якая сёння пастаўлена пад сумненне. Усе згодны з тым, што пісьменніцкі Саюз — і калектыўнымі намаганнямі сваіх творцаў, і індывідуальнай пісьменніцкай працай — значна прымнажае духоўныя сілы нашага грамадства. Абапіраючыся на закладзеныя класікамі традыцыі, сумленна служачы роднай літаратуры, мы, пісьменнікі, становімся ўсё больш выразным і чутым у свеце голасам нашай маладой суверэннай краіны.

**Таццяна МАЦЮХІНА,**
**паэтэса, літаратуразнаўца:**



— ІІІ З'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі — знакавая падзея ў жыцці нашага грамадства, паколькі лёс беларускай кнігі залежыць ад кожнага. Айчынныя літаратары з вялікай увагай ставяцца да захавання культурнай спадчыны Беларусі, умацоўваюць традыцыйныя духоўныя каштоўнасці ў грамадскай супольнасці дзякуючы сваім мастацкім творам. Прафесіяналізм, адказнасць, мудрасць кіраўніцтва пісьменніцкага саюза выклікаюць шчырую павагу і ўдзячнасць.

Для мяне з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі — яшчэ і цёплая сустрэча з працавітымі, уважлівымі пісьменнікамі, якія ведаюць цану міру, дабрабыту грамадства.

**Ірына КАЧАТКОВА,**
**перакладчыца, празаік:**



— З'езд пісьменнікаў — пляцоўка, дзе могуць сустрэцца майстры слова не толькі са сталіцы, але і з аддаленых куткоў нашай краіны, а таксама з замежжа, каб сумесна абмеркаваць актуальныя маральна-этычныя выклікі, з якімі сутыкаецца наш сучаснік. У свеце, дзе спрадвеку «ўсё марнасць і пагоня за ветрам», дзе нават даросламу чалавеку пагражае небяспека страціць арыенціры, наша пісьменніцкая задача — знайсці, адшукаць словы, што дапамогуць стварыць літаратурны аазіс, у якім чытач — гэты адвечны падарожнік, засяроджаны шукальнік ісціны — зможа ўмацаваць сілы, выбраць далейшы кірунак «вандраванняў».

Пісьменніцкі з'езд дазваляе падсумаваць вынікі творчай дзейнасці, прыпыніцца, асэнсаваць рэаліі, акрэсліць задачы на будучыню. У гэтым сэнсе досвед стасункаў з калегамі дае штуршок для новых творчых пошукаў і разважанняў, якія пазней кладуцца на паперу, робяцца мастацкімі творамі.

Для перакладчыкаў пісьменніцкі сход — гэта магчымасць сустрэцца з прадстаўнікамі замежжа, «з першых вуснаў» даведацца пра новыя творы, наладзіць новыя сувязі, умацаваць ранейшыя.

Віктар ШНІП



## Голас Марыі Захарэвіч

*у апошнія дні лістапада
калі золата лятала ў паветры
і на срэбных нітках павуціны
яшчэ свяціліся каралі
бабінага лета
замаўчалі птушкі
бо Ваш голас пачулі
у Мядзельскай вёсцы Навасёлкі
пад Нарачанскім небам
у якім безыменных зорак няма
і ніколі не будзе
бо мы не пагарэльцы
мы дзеці сонца
беларускага сонца
якое ніколі не заходзіць*

*і калі выходзіце на сцэну
у Вашым голасе чуецца
шум бяроз што пасадзіў бацька
каля роднай хаты
адкуль пачаліся Вашы дарогі
і чуецца плёскат хваль нарачанскіх
што цалавалі Вам ногі
і чаек самотныя крыкі
у расе траў лугавых заціхаюць
бо косы звіняць
і на Храмах званы
і свечкі запаленыя Вамі
асвятляюць вечнасць
дзе жывуць нашы продкі
дзе стаяць нашы замкі
дзе нашы рыцары
бароняць нашу волю
і Ваш голас
які дапамагае сонцу
узыходзіць над Нараччу
і над Беларуссю*

*і адшумела навальніца
і паехала залатая карэта
праз лес
да людзей на балоце
каб перад вячэрай
традыцыйна сабраліся ўсе тутэйшыя
і паслухаўшы плач перапёлкі
пажадалі шчасця Паўлінцы
якая пайшла па свеце
несучы з сабой беларускае слова
як сэрца на далоні*

*і адказ на пытанне
аб чым баліць душа
чуецца ў пошуме жыта ў полі
у бруенні крынічнай вады
у шуганні Купальскага полымя
і ў кожнай кветачцы ў Вашым садзе
і ў кожнай травінцы
каля сцяжын што вядуць за небакрай*

*і мы слухаем Ваш голас
як музыку
як песню
як малітву
і ў кожным Вашым слове
жыве Паэзія і Беларусь*

***

*Ізноўку дождж... Ізноўку восень,
Як год назад, як сто назад.
Як карабель, пустая восець
Плыве спакойна ў лістапад,*

*Нібы ў агонь, што забушуе
І сцішыцца праз пару дзён.
Ізноўку дождж мяне ратуе
Ад нематы, бо любіць ён*

*Мае самотныя маленні
Да сонца, што ад нас сышло
За воблакі, каб дождж асенні
Напомніў нам, што так было*

*І год назад, і сто назад,
І будзе так ізноў праз восень,
Як карабель, старая восець
Спакойна плыць праз лістапад.*

## Лістапады Яўгеніі Янішчыц

**(20.11.1948 — 25.11.1988)**

*ад свайго першага лістапада
да першага верша пра маці
праз першыя россыпы
лістоты і слоў
ты ішла ў маладой журбе
прыгожая і закаханая
светлая як малітва
у дзень вечаровы*

*ад першага верша
ішла на голас ліры
праз снежныя грамніцы
па беразе Ясельды
як па беразе сусвету
у пару любові і жалю
дзе снег белы як папера
якой ты давяраеш і давяраешся
твая каліна зімы
як зорнае неба
куды ўсе імкнуцца
непрыручаныя птушкі
а ты птушка непрыручаная
і табе на беразе пляча
не быць сагрэтай*

*і на Ягадным хутары
заўсёды ветлае акно ў дождж
дзе стрыжы начныя
клічуць і клічуць сонца*

*і ты ідзеш па свеце
і вяртаешся
да маці да сябе да сына
у якога свой лістапад*

*і ў шуме жытняга свята
твой шлях бясконцы
да твайго апошняга лістапада
які ніколі не будзе апошнім*

***

*Першы снег мы чакалі, як свята.
І стаў белым увесь белы свет,
Дзе, як вугаль,чарнюткая хата
Патанула ў снягах, як траве
У бялюткай, як дым на пажары,
Дзе згарэлі былыя гады,
У якіх былі светлыя мары
І надзеі на час залаты,
Што вось прыйдзе, як сонца прыходзіць,
Пад якім растаюць снег і лёд.
Выпаў снег. І па снезе, па лёдзе,
Нібы снежны, спяшае народ,
У якога няшмат тут святаў,
І таму, першы снег, як свята,
Што на крылах было ў лістапада
І што ў нашай самоце было…*

---

Хведар ГУРЫНОВІЧ



## Напамінак

*Memento mori — помніце аб смерці,
Жывём імгненне толькі на зямлі.
Адно маліце Госпада, каб дзеці,
Каб нашы дзеці нас перажылі.*

*Хай абмінуць вас войны і няшчасці,
Хай непарыўным будзе круг быцця.
Няма страшней трагедыі для маці,
Чым перажыць уласнае дзіця.*

*І хоць на сто гадоў пастаўце планку,
Яе вы, можа, й возьмеце якраз,
А радуйцеся кожнаму світанку,
Як быццам бы апошні ён у вас.*

*Я веру, век ваш скончыцца не скора,
А ўсё-ткі прыйдзе час, як ні круці…
Таму, сябры мае, memento mori,
Але жыццё шануйце пры жыцці.*

## Ад гульбы да журбы

*Ці то шэпт варажбы,
Ці то голас прарочы:
Ад гульбы да журбы,
Як ад ранку да ночы.*

*Рыжы ты ці рабы,
Лысы ты ці патлаты,
Ад гульбы да журбы,
Як ад будня да свята.*

*Каб нідзе не забыў:
Слодыч змешана з болем —
Ад гульбы да журбы
Тры хвіліны, не болей.*

*І сабе зарубі
Гэты вырак на носе:
Смех гульбы, стогн журбы,
Як вясна і як восень.*

*Ах, гульба — не журба,
Не трымцелі б калені!
А сума і турма? —
Ёсць і ў тым паралелі.*

## Паляўнічае

*У горадзе дзікія качкі жывуць
На Свіслачы стольнай з вадой палінялай.
Азёрную цішу, рачную траву
На вэрхал сталічны яны памянялі.*

*Забылі, як крача паўночны аер,
Згубілі дарогу на ячнае поле.
Ах, дзікія качкі, крыжанкі мае,
І воля ў вас ёсць, і няма яе, волі.*

*Заціснуты ў хваткі суровы бетон
Ваш лёт, нібы ў камеру змрочнай
Лубянкі,
Людское падачкі размяклы батон
Вы з чайкамі дзеліце і з галубамі.*

*А недзе за горадам, дзе чараты
Скразняк, быццам клавішы, перабірае, —
Імклівае ззянне, віраж малады,
Качыны прастор без канца і без краю.*

*Ідзе на пасадку над зорнай ракой
Чародка крыжанак, нібы эскадрылля.
І сон мой трывожыць, і рушыць спакой
Хвалюючы посвіст качынага крылля.*

*Імгненна ўзлятае двухстволка мая,
І падае качар пад вольхаю ніцай…
Чаму ж тады хлебам кармлю вас і я,
Калі прыязджаю па справе ў сталіцу?*

## Воблакі

*Скразнякоў расцярэбіны,
Сонны выгін ракі.
Ліст, расой пасярэбраны,
Прытулю да шчакі.*

*Зграбны лісцік арэхавы
З вераснёўскай казны…
Быццам даўняе рэха мы
Адазвалі з вясны.
Хіба ж можна: над пожнямі —
Раптам! — сцеў салаўя.
Ліст пяшчотна-ўстрывожаны,
Як далонька твая.*

*Ах, навошта, навошта мне
Той шчымлівы рэгістр —
Ліст з юначаю поштаю?!
Ненапісаны ліст,*

*Прахалодай расстайнаю
Мне шчаку апячы…
Мрояць воблакі стайняю,
Каб прыстаць на спачын.*

*Вецер шваэндае, стрэсавы,
І не перастае,
Ён аблокі растрэсвае.
Быццам думкі мае.*



Фота Кастуся Дробава.

## Непагадзь

*Зашкліла ўсю пространь
Жарства непагоды.
Дабіцца няпроста
З нябёсамі згоды.
Галосіць і стогне
Усё наваколле.
Спалохана ў стойлы
Забіліся коні.
Пад музыку Баха
Раз'юшана ў бубны
Бляшаныя дахі
Грымяць, як трыбуны.*

*Здзірае кастрычнік
Касцісты і юны
З апор электрычных
Гітарныя струны.*

*Вятрыска галодны
Шматае ганебна
Тугія палотны
Суконнага неба.*

*Цярэбіць каралі
Рабіны цыбатай
І перабірае
Платы, як цымбалы.*

*У гнёздах сарочых
Хіхікае й вые,
І ў хлеўчыку смокча
Каровіна вымя.*

## Прысак

*Стары канал, заціснуты ў хамут
Гарбатага мастка, вады істужка.
Андатрамі раскрытыя ракушкі,
Як пудраніц бліскучы перламутр.*

*Бабрамі спілаваны праз адну
Тапалі на пасадцы ўсцяж канала.
Над імі сонца позняе канае,
І за сабой я доўгі цень цягну.*

*Падыспадам пяшчотнага лісця
Тапаляў вусны грэе хрыплы вецер.
І незабудкі — бы ўспамін аб леце
Між ломкіх промняў рыжага трысця.*

*Злагоджаны цяплом цяплячых пысак,
Бярэцца поплаў срэбраным імхом.
І сум шчымлівы навявае прысак,
Пакінуты вясковым пастухом.*

*Вугольчык тлее шчэ адзін-адзіны.
Абцасам я развярушу яго,
І пук травы сухое ў попел кіну,
І ўдзячна заўсміхаецца агонь.*



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Тэкерэй

*Апавяданне*

Хто такі Уільям Тэкерэй, я даведаўся, калі мне не было і дзесяці год. Не, я зусім не быў вундэркіндам і мая чытацкая цікаўнасць не сягала далей шмат разоў перачытаных Аркадзя Гайдара, Марыі Прыляжаевай і Валянціны Асеевай з аповесцю «Васёк Трубачоў і яго таварышы». Ды раптам імя англійскага класіка імкліва ўвайшло ў маё жыццё самым нечаканым чынам. Мой бацька, вярнуўшыся з фронту інвалідам, не мог пайсці працаваць на сваю любімую будоўлю, дзе да вайны ён быў добрым муляram і спраўна клаў печкі. А калі ўлічыць, што адукацыю ён меў усяго сем класаў, то нікім, акрамя каменданта інтэрната ці брыгадзіра вартаўнікоў, яго не бралі. А мама, якая скончыла ў 1941 годзе педагагічны інстытут імя Герцэна ў Ленінградзе, каб пракарміць сям'ю, мусіла пайсці на працу ў прыгарадную гаспадарку, дзе давалі жытло і надзел зямлі пад агарод. Я ж, навучыўшыся чытаць у пяць год, быў выдатнікам у школе, хадзіў у драматычны гурток пры Доме піянераў, бавіў вольны час з сябрамі-аднагодкамі і марыў пра далёкія падарожжы, дзе адводзіў сабе ролю капітана далёкага плавання. Яшчэ з намі жыла бабуля, ад якой я навучыўся сакавітай беларускай мове, якая расказвала мне казкі і спявала прыгожыя песні. Да рэвалюцыі яна трымала перам праз рэчку Ула пад Шумілінам, там наслухалася ад мужыкоў усялякіх салёных слоўцаў, якімі шчодра перасыпала сваю гаворку, нягледзячы на маміны ўшчуванні. Была ў мяне і малодшая сястра, вогненна-рыжая рагатушка, якую я, хоць і любіў, нярэдка крыўдзіў рознымі падколкамі і жартамі.

Раз на месяц бацька хадзіў на нейкі сход. Што гэта быў за сход, я не ведаў, але пасля кожнага з іх бацька прыходзіў дадому на моцным падпітку. «Зноў на сход збіраецца, — бурчэла бабуля, — на рагах, вядома, прыйдзе!» — «Як гэта на рагах? — пытаўся я, — дзе ён тыя рогі возьме?» — «От, свіння грязі заўсёды знойдзе», — зноў незразумела адказвала бабуля. Бацьку майго яна не любіла. Дужа простым ён здаваўся для маёй адукаванай мамы. І хоць сама баба Вольга мела адукацыі ўсяго два класы і чытала па складах, дзецьмі сваімі дужа ганарылася, бо дзядзька мой, мамін брат, быў вядомым адвакатам, а яшчэ адзін яе сын, які загінуў у вайну, служыў да фронту артыстам дапаможнай студыі Віцебскага тэатра. Дзед мой, казала яна, таксама быў пісьменны, любіў чытаць розныя кнігі. «Праўда, — дадавала, — больш нічога не ўмеў і не хацеў ведаць, акрамя сваіх кніжак».

Бацька ж быў тыповым пралетарам са шматдзетнай сям'і, і ягоныя браты і сёстры былі полацкай рамеснай беднатой. Сам ён быў гарачы і нястрыманы, мог увязацца ў бойку на вуліцы, але перад мамай станавіўся ціхі і сарамлівы, і тады я нават яго шкадаваў. Нас з сястрой ён вельмі любіў. А мы часта пад уплывам бабулі троху ў нечым часам аддаляліся ад яго, і нашай ласкі, на мой сённяшні погляд, яму не хапала.

У той дзень бацька, як звычайна, адпраўляўся на сход. «Толькі б усё абышлося добра, без скандалу і лаянкі!» — маліў пра сябе я. Дужа ж хваравіта пераносіла мая дзіцячая душа пасляходавыя бацькавы прыгоды. Але надзеі не спраўдзіліся і гэтым разам. Бацька з'явіўся яўна няцвёрдай хадой, у расшпіленым фрэнчы (ён вельмі любіў паўваенную вопратку), з блазнаватай усмешкай на твары. А пад пахай, там, дзе параненая рука, прыціскаў дзве новенькія тоўстыя кніжкі.

Скажу адразу, што кніг у той час у нас практычна не было. Я амаль кожны дзень бегаў у бібліятэку, а на тонкай этажэрцы ў чыстым пакоі стаялі хіба толькі падручнікі ды зачытаная кніжка казак, падораная мне дзядзькам з Ленінграда падчас аднаго з яго прыездаў. Чамусьці менавіта гэтыя кніжкі выклікалі бабулін гнеў. З яе гарачай тырады я выхапіў толькі словы пра тое, што ў сям'і на кожнай капейцы эканомяць, а ён п'е і дарагія кніжкі купляе. Але бацьку на падпітку гарачыя словы гаварыць было небяспечна. Адной сваёй здаровай рукой бабулю ён адштурхнуў так, што яна адляцела да печы, бы мячык, стукнуўшыся галавой. «Ратуйце, забіваюць!» — залямантавала яна. Моцна заплакала сястрычка. І тут на парозе з'явілася мама, якая толькі прыйшла з працы. Што было далей, апісваць мне і сёння не хочацца…

Калі ўсё аціхла і бацьку паклалі спаць, я дабраўся нарэшце да прынесеных ім кніжак. «Уільям Тэкерэй. Кірмаш фанабэрыі» — было напісана на вокладцы. Я нічога не зразумеў. Але кніжкі былі такія прыгожыя, ад іх так прыемна пахла друкарскай фарбай, што я беражліва занёс іх у свой куток са школьнымі прыладамі і паставіў на верхнюю паліцу этажэркі.

Увесь наступны дзень бацька хадзіў чарнейшы за хмару. «Прабач, сынок, такое больш не паўторыцца!» — сказаў ён, абняўшы мяне і прыціснуўшы да грудзей. Па ягоных шчоках цяклі слёзы, і было відаць, што ён проста пакутуе. Мне стала яго так шкада, што і ў самога навярнуліся слёзы.

«Тата, а што такое Тэкерэй?» — крыху супакоіўшыся, запытаўся я. «А хто яго ведае, сынок, — азваўся бацька, — проста хацеў вам прыгожы падарунак зрабіць, ды вось як выйшла. Хочаш, выкіну іх вон?» — «Не, тата, не трэба! Хай будуць, бо ў нас і так кніг небагата. А яны прыгожыя», — быў мой адказ.

Сваю бібліятэку я стаў збіраць ужо старшакласнікам. І да двухтомніка Тэкерэя дадаліся іншыя кнігі. Але чытаць «Кірмаш фанабэрыі» чамусьці не спяшаўся. Прачытаў ужо студэнтам, рыхтуючыся да экзамену па замежнай літаратуры.

Але і сёння пры слове «Тэкерэй» ажываюць шчымлівыя ўспаміны і стаяць перад вачыма нашы з бацькам слёзы ды яркі сполах любові да самага роднага на зямлі чалавека.

# Бадачу

*З цыкла «Кітайскі дзённік»*

«Заўтра я прапаную паехаць у парк Бадачу, — сказаў на развітанне Ігар. — Гэта недалёка, кіламетраў пятнаццаць ад Пекіна, можна паехаць на аўтобусе».

Ігар — масквіч, кітаязнаўца, жыве і працуе ў кітайскай сталіцы больш як дзесяць гадоў. Пашанцавала, што ў мяне з'явіўся такі гід — муж Олінай сяброўкі, які пэўны час працаваў з ёй у адной рэдакцыі кітайскага міжнароднага радыё.

Шчыра кажучы, я быў ашаломлены пекінскімі ўражаннямі, і ў галаве ўсё стала блытацца: старадаўнія пагады, храмы, шматлікія статуі, вазы… І ўсё гэта ў арэале сучаснага шматпавярховага мегаполіса з вялізным патокам машын, з аграмаднай колькасцю людзей вакол, сярод якіх зрэдку пракідваліся еўрапейскія твары.

Я гасціў у дачкі, якая досыць нечакана і для сябе, і для мяне аказалася супрацоўніцай адной з галоўных радыёстанцый вялікай краіны, бо прывяла яе туды… беларуская мова. Так, менавіта наша мова, бо да ста з лішнім іншых моў, на якіх Кітай вяшчае на ўвесь свет, дадалася і беларуская.

Памятаю, мая вясковая палеская цешча, слухаючы, як я з Оляй размаўляю па-беларуску, усё здзіўлялася, маўляў, што гэта вы так не па-гарадскому, так папросту размаўляеце? А потым, калі Оля стала працаваць на радыё, сказала: «Які ж ты, зяць, разумны, што дачку на нашай мове гаварыць навучыў!»

Ведала б яна, што наша мова аказалася запатрабаванай ажно за шэсць тысяч кіламетраў ад яе Кажан-Гарадка, у сталіцы вялікай сусветнай дзяржавы!..

Сказаць, што пра Кітай да гэтай паездкі я ведаў мала, было б няправільна. І чытаў шмат, і нават у далёкім дзяцінстве мы ў нашым класе выпісвалі кітайскі дзіцячы часопіс на англійскай мове, і я пэўны час нават перапісваўся з адным кітайскім школьнікам.

Але гэта ўсё аддавала такой казачнай экзотыкай, што нават уявіць было цяжка, што некалі буду хадзіць па гэтых шырокіх вуліцах сярод вірлівага натоўпу людзей, у самым сэрцы Кітая…

Ішоў пяты дзень майго жыцця ў Пекіне, і мы з Ігарам з самай раніцы прыйшлі да аўтобуснага прыпынку, каб ехаць у парк Бадачу.

Па дарозе Ігар расказваў, што «Бадачу» ў перакладзе з кітайскай азначае «Восем Вялікіх месцаў» і адносіцца да будысцкіх храмаў, якія раскінуліся на ўзгорках ля падножжа гары Сішань. І назвы гэтых храмаў раскрываюць філасофскі сэнс будысцкай рэлігіі: Вечны свет, Вялікае спачуванне, Драконава крыніца, Прамое благаславенне…

Урэшце аўтобус спыніўся, і мы падышлі да старадаўняй брамы. Турыстаў было не так шмат, як у іншых месцах, дзе мы ўжо пабывалі, ды еўрапейскіх твараў не



было відаць. Некалькі мужчын, верагодна, сяляне, мяркуючы па іх абветраных тварах, паглядзеўшы на нас, нешта загаварылі.

«Ты ведаеш, што яны гавораць? — звярнуўся да мяне Ігар. — "Белыя людзі да нас прыехалі". У правінцыі яшчэ не прывыклі да еўрапейцаў».

Аказваецца, для многіх гэты манастырскі комплекс не проста турыстычны аб'ект, а месца пакланення і малітвы, як у маім Полацку Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр.

І сапраўды, на кожнай пляцоўцы каля храмаў і ў самых памяшканнях каля вялікіх статуй Буды курыўся салодкі дым, людзі ўкленчвалі і доўга стаялі так моўчкі, пра нешта спавядаючыся ў думках Бажаству. Гэта былі і старыя, і зусім юныя людзі. Адна дзяўчына кінулася ў вочы сваім дужа нясціплым выглядам, ну проста начны матылёк. Яна таксама ўкленчыла і нешта шаптала. Але ніякіх крывых усмешак ці асуджальных позіркаў у яе бок ніхто не кідаў. Шмат было сялян з парэпанымі і натруджанымі далонямі, абветранымі тварамі.

«Будзем падымацца пешшу ці па канатнай дарозе? — спытаў Ігар. — Самы апошні храм на вышыні больш як паўкіламетра».

«Канечне, пешшу», — сказаў я і ледзь потым не пашкадаваў пра гэта, бо шлях аказаўся не такім ужо і простым. На кожнай пляцоўцы былі храмы, з асобнымі альтанкамі, са статуямі Буды, выявамі драконаў, львоў, іншых казачных істот. У павільёнах сядзелі людзі, пілі чай, размаўлялі. Вакол цвілі кветкі, шамацелі дрэвы, пасаджаныя шэсць стагоддзяў таму. Пах салодкага дыму, яркія чырвоныя лісты на дрэвах на пакрытых зелянінай узгорках пераносілі ў нейкі казачны таемны свет. Быў верасень, самы прыгожы ў Пекіне месяц, і тут, на вышыні, глядзелася на навакольны свет зусім інакш, чым ля падножжа.

Пра тое, што я пачуў і пабачыў тут, можна расказваць бясконца, не хопіць і тых амаль шасці гадзін, якія мы правялі ў парку. Але асабліва запомнілася, што распавядаў Ігар пра Пагаду Вясёлых Бессмяротных. Яна мае вельмі важнае значэнне ў гісторыі будызму ў Кітаі.

Як вядома, пасля крэмацыі Буды ўсё, што засталося ў праху, — гэта яго чатыры зубы. Адзін з іх быў прывезены ў Кітай у адзінаццатым стагоддзі. У гістарычных хроніках дынастыі Ляа ёсць згадка, што імператар Даацзун змясціў гэты зуб у адну з пагад Бадачу. Ужо пасля разбурэння пагады ў 1900 годзе манахі, аглядаючы руіны, знайшлі каменны куфар, у якім утрымлівалася скрыня з сандалавага дрэва, у якой і выявілі зуб Буды. Гэты зуб заставаўся ў храме да 1955 года, пакуль не быў перанесены ў Храм Вялікай Міласэрнасці па рашэнні кітайскай будысцкай асацыяцыі і змешчаны там у Залу будысцкіх рэліквій.

У перыяд з 1958 па 1964 год у храме па рашэнні Урада КНР была пабудавана новая 13-павярховая пагада вышынёй 51 метр. Зуб Буды быў перанесены ў новую пагаду, і яна атрымала назву Пагада Зуба Буды.

Мяне чарговы раз уразілі гэтыя магутныя маштабы: прыступкі на Вялікай Кітайскай сцяне, выявы імператараў, вазы, пагады Забароненага горада Гугуна. Дзіва, самі кітайцы ў асноўным не надта высокія, не надта мажныя знешне, а маштабы вакол гіганцкія.

«Ведаеш, — між тым расказваў мне Ігар, — у мяне ў Маскве жыве знаёмая. Яна вядомая перакладчыца з кітайскай. У свой час выйшла за кітайскага камуністычнага чыноўніка. Нарадзіла дачку. Падчас культурнай рэвалюцыі чыноўніка саслалі ў працоўны лагер, дзе ён памёр, а яе выслалі назад у Маскву. Дачку забралі ў дзіцячы дом. Цяпер дачка знайшлася, жыве ў Пекіне, працуе ў камп'ютарнай фірме. Кліча маці прыехаць жыць да яе».

— А яна што?

— Усё збіраецца, баіцца ўбачыць той Кітай, адкуль яе выслалі. Я напісаў ёй пісьмо, паслаў фота, відэазапісы. Я люблю сённяшні Кітай і хачу жыць тут як мага даўжэй.

Ігар распавёў, што яго жонка таксама палюбіла краіну. І хоць, у адрозненне ад яго, ніколі не мела справу з кітаістыкай, адчувае сябе ў Пекіне як рыба ў вадзе.

Гэтыя захопленыя словы пра Кітай я чуў і яшчэ ад адной расіянкі — Ані з Санкт-Пецярбурга. Яна нават падарыла мне сваё даследаванне пра вучэнне Канфуцыя з надпісам «Жадаю Вам гэтаксама палюбіць Кітай, як мы тут».

Палюбіць Кітай… Я не мог яшчэ сказаць, на пяты дзень майго падарожжа ў вялікую краіну, што ўжо палюбіў яе, але яна мне вельмі падабалася. Ціха цурчэлі фантаны, рыбкі плавалі ў чыстай вадзе, з гор па падвеснай дарозе спускаліся турысты…

Гудзелі ад доўгай хады ногі, але на душы было лагодна і ціха. Мне адкрывалася нешта такое, што потым доўга будзе прыходзіць у сны, што пачало будзіць шчырую і спагадную цікаўнасць да краіны, дзе я яшчэ пабываю не раз, каб сказаць сабе ўрэшце, што разам з Беларуссю я таксама палюбіў і гэты далёкі край.

# Падступная сястра таленту

Жанравыя зборнікі — палка на два канцы. З аднаго боку, пісаць пра іх няпроста: аўтараў шмат, усе яны — розныя (прынамсі, хацелася б верыць), і калі больш-менш падрабязна разглядаць творы кожнага — не хопіць газетный паласы, калі ж крануць павярхоўна — атрымаецца «галопам па Еўропах»...

З іншага боку, такія кнігі даюць няхай аддаленае, няпоўнае, а ўсё ж уяўленне пра стан пэўнага жанру ў сучаснай літаратуры. Прыкладам, кніга «Повязь», выдадзеная «Мастацкай літаратурай», рэпрэзентуе навелу і апавяданне.

Так абяцана чытачу ў анатацыі. Пры гэтым паджанравыя вызначэнні твораў найбагацейшыя: «дакументальныя, сацыяльныя, прыгодніцкія, гістарычныя, дэтэктыўныя, пейзажныя, лірычныя, філасофскія, трагічныя, сатырычныя, гумарыстычныя, містычныя, алегарычныя, фантастычныя, міфалагічныя і пабытавыя». Нельга не заўважыць, што класіфікацыя даволі спецыфічная. Калі адзначаныя асобна дакументальныя апавяданні і навелы (дакументальная навела?..), то чаму не сказаць пра наяўнасць тэкстаў мастацкіх, якіх у кнізе — пераважная большасць? Гэтаксама падштурхоўвае да роздуму вызначэнне «філасофскія». Што такое філасофская навела і якім чынам добры празаічны твор (бо не станучь жа ўключаць у збор кепскі?) можа пазбегнуць філасофскіх пытанняў — размова асобная. Дый сцверджанне, што ў апавяданні, а тым больш навеле, можна спасцігнуць «найважнейшыя законы развіцця грамадства», выклікае сумнеў.

У той жа час анатацыя пакідае без увагі адзін важны факт: у кнізе змешчаныя тэксты як творцаў беларускамоўных, так і рускамоўных. Па-беларуску пішуць 22 з 29 празаікаў (у гэты спіс патрапіў Алег Ждан, сталы аўтар рускамоўнага «Нёмана»). Уладзімір Саламаха «сеў» адразу на два крэслы: прадстаўляе чытачу рускамоўную «Евменову хату» і беларускамоўнае апавяданне з простанароднай назвай «Трынкен шнапс, гармонік шпілен…». Зрэшты, змест твораў, а галоўнае — іх інтанацыя цалкам адпавядаюць назвам апавяданняў. Адзначым таксама, што імёны рускамоўных аўтараў падаюцца па-беларуску.

Але звернемся ўласна да пытання жанраў. Насамрэч, навел у зборніку вобмель. Найбольш дапасуюцца да гэтага вызначэння творы Уладзіміра Гаўрыловіча: вялікую гісторыю ён згортвае да малой формы і прыпраўляе яе нечаканай развязкай. Штопраўда, не столькі спрацоўвае ўласна эфект нечаканасці, колькі заўважнае жаданне і захады аўтара да таго, каб так яно і было, каб чытач здзівіўся і вохнуў.




Калі мець за ўзор Мапасана і Цвейга, класічную навелу ў зборніку не знайсці. Затое ёсць эсэ, лірычныя абразкі, нататкі няпэўнага літаратурнага жанру і нават нешта накшталт прытчы, якую прапануе Анатоль Крэйдзіч, — «Мурашнік». Твор гэты вельмі нагадвае адзін з апаведаў Барыса Сачанкі. Розняцца толькі канцоўкі, а значыць, і ідэя, з якой тэкст пісаўся. У Сачанкі мурашнік — сімвал чалавечай нязломнасці перад катастрофай (найперш меўся на ўвазе Чарнобыль, а ў кантэксце ўсяе творчасці празаіка можна казаць і пра Другую сусветную вайну); у Крэйдзіча — быццам бы пагарда (так падалося герою твора) прыроды да чалавека. Апавяданне Сачанкі больш гарманічнае, цэласнае, і твор Крэйдзіча быццам бы пісаўся пад уражаннем ад сачанкаўскага, толькі думка пасля прачытання прыйшла яму на розум іншая...

Спрабуючы разгледзець не паасобныя творы, але жыццё апавядання як жанру, вартазадацьтрыпытанні. Прашто кажуць пісьменнікі ў кароткай прозе? Якое стылістычнае рашэнне выкарыстоўваюць? І чаму звяртаюцца да апавядання? На апошняе пытанне можна адказаць толькі здагадкамі: сучаснасць вымагае сціслых літаратурных формаў; асаблівасці таленту кожнага асобна ўзятага аўтара; прырода гісторыі, якая натхніла аўтара на напісанне твора (нельга, напрыклад, адзін дыялог зрабіць падмуркам для рамана-эпапеі). А быць можа, пісьменніку здаецца, што стварэнне кароткага аповеду патрабуе меншых высілкаў?.. У такім разе ўражанне гэтае падманлівае. Прывідная лёгкасць паўстае стылістычнай неахайнасцю, нерэалістычнасцю, фальшывымі інтанацыямі. Пад уражаннем ад настрою яшчэ не напісанага твора аўтар робіць няправільныя крокі, і тэкст у выніку атрымліваецца зусім не такі, якім бачыўся ў задуме, не такі, якім успрымае яго аўтар.

Так, аўтары кароткай прозы збольшага звяртаюцца да таго, што ў народзе завецца «сапраўдным жыццём» (яшчэ лепш сказаць «настаяшчай жызнью»). Тут жыццё самотных старых людзей, пакінутых роднымі, і настрой у такіх аповедаў адпаведны — мінорна-безвыходны, гнятлівы. Аўтар відавочна прабівае чытача на спачуванне («Вяртанне» і «Крыўда» Гаўрыловіча, «Бездань» Віктара Праўдзіна). Тут — вясковы побыт, які, аднак, падаецца не ў стылі Вячаслава Адамчыка, з глыбокім адчуваннем закону гэтага мікракосмасу, паэтычнасцю без лішняй сентыментальнасці. Для аўтараў кнігі «Повязь» вёска — крыніца забаўляльных гісторый, якія часам даходзяць да фарсавага гучання («Бацькаў яблык» Юліі Зарэцкай, «Трынкен шнапс, гармонік шпілен...» Уладзіміра Саламахі, «Цячэ вада ў ярок» і «Бузук» Васіля Шырко). Простасць і непасрэднасць герояў такіх твораў магічным чынам уплывае на іх ствральнікаў, і пісьменнік нават у мове «ад сябе» пачынае падладжвацца пад маўленне героя. Гэта, на маю думку, кепска адбіваецца на стылі прозы. Роўна як і ў паэзіі, аўтар мусіць адмежавацца ад пачуцця, засяроджвацца на выбары моўных сродкаў, а не на шчымлівым пачуцці да прадмета гаворкі. Нехта палічыць такі халодны разлік у стварэнні мастацкага тэксту кашчунным; нехта — адзнакай прафесійнасці.

Закрываючы пытанне стылю ў «жыццёвых» апавяданнях (не толькі вясковых), знарочыстай прастамоўнасці — калі быць дакладным, выкажу яшчэ адну здагадку: пісьменнік можа выкарыстоўваць падкрэсленую гутарковасць як знак свойскасці. Інакш кажучы, быць упэўненым, што такі аповед прыцягне больш шырокую аўдыторыю, што кнігу ягоную прачытае не толькі настаўнік, цікаўны да сучаснай беларускай літаратуры, але і вясковая бабулька. Так, вясёлая гісторыя пра фельчара ці прапойцу-гумарыста запомніцца, пацешыць, можа быць пераказаная. Але да хараства стылю, прыроды самое мовы тая самая бабулька чуйная не менш за прафесара філалогіі. Нездарма «Новую зямлю» Коласа ў вёсках ведалі на памяць. Словам, знарок спрошчаны стыль не можа быць гарантам поспеху.

Калі, пішучы пра вёску, празаікі звяртаюцца да жыцця старых ці праблем сям'і, пытрыярхальнасці («Мухамор» Анатоля Крэйдзіча), то ў апісаннях гарадскога жыцця цэнтральным персанажам робіцца адзін-адзіны чалавек, які мае процьму знаёмых, матэрыяльны дабрабыт, нават сям'ю, але пачуваецца самотным і няшчасным не меней за тых самых вясковых старых. У тых, прынамсі, было шчасце. У гэтых — ніколі. Такія непрыкаяныя героі аповедаў «Залатая рыбка» Анатоля Андрэева, «Аднакашнікі» Уладзіміра Дуктава, «Сабачы бог» Алега Ждана, «Нэля» Наталлі Касцючэнка, «Кветкі для маленькай Іды» Жанны Міланові, «Дыханне ранняй восені» Таццяны Мушынскай, «Бультэр'еры» Віктара Праўдзіна, «Маёр» Паўла Саковіча, «Пясок» Таццяны Сівец, «Перасяленне» Міхася Слівы. Цікава пры гэтым, што жаночыя персанажы выглядаюць мацнейшымі за мужчынскіх: жанчыны альбо кіруюць прадстаўнікамі моцнай паловы, альбо, у параўнанні з імі, больш годна праходзяць выпрабаванне самотай. І, што яшчэ цікавей, такімі яны паўстаюць якраз у аўтараў-мужчын.

Ёсць у зборніку свае «лідары»: «Сабачы бог» Алега Ждана, «Нэля» Наталлі Касцючэнка, «Бультэр'еры» Зіновія Прыгодзіча, творы Уладзіміра Гаўрыловіча. Вылучаецца апавяданне «Пясок» Таццяны Сівец з яго паралельнымі сусветамі (гэты твор ставіць шмат пытанняў, разважаць над якімі можна вельмі доўга). Адзіны гістарычны аповед у зборніку — «Лісты Караліне» Івана Капыловіча, дзея ў якім разгортваецца падчас паўстання Каліноўскага. Не абмінаюцца й вечныя тэмы — Другая сусветная, Чарнобыль. І, як паказвае кароткі агляд, сур'ёзнасць тэмы яшчэ не гарантуе поспех апавядання, «прасцецкі» стыль не зробіць аўтара народным, а кароткая проза, што было, вядома ж, прадказальна, вымагае вялікага таленту.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Небяспека эўфемізмаў

**Кандрат Крапіва — асоба ў беларускай гісторыі сапраўды вельмі значная, аднак у той жа час і неадназначная. Магчыма, менавіта таму даследаванне яго творчасці, нягледзячы на немалую колькасць навуковых работ, па-ранейшаму застаецца ў полі зацікаўленняў айчынных даследчыкаў. У 2016 годзе ў выдавецтве «Беларуская навука» пабачыла свет навуковая манаграфія доктара філалагічных навук, прафесара Сцяпана Лаўшука «Праз церні да брамы неўміручасці. Кандрат Крапіва і беларуская драматургія». Для нашых чытачоў кніга будзе цікавая яшчэ і тым, што на яе старонках часта згадваецца і цытуецца газета «Літаратура і мастацтва». Менавіта тут 23 красавіка 1939 года быў надрукаваны ўрывак з п'есы «Хто смяецца апошнім».**




Відаць, найбольшая складанасць у даследаванні творчасці пісьменнікаў першай трэці XX стагоддзя, а асабліва — канца 1920-х — 1930-х гадоў, палягае ў тым, што яе немагчыма разглядаць выключна ў кантэксце творчай эвалюцыі асобнага творцы, суполкі, кірунку, паколькі ў гэты час усе творчыя пошукі і іх вынікі былі дэтэрмінаваныя грамадска-палітычнымі ўмовамі. А што датычыць 1930-х гадоў, то гаварыць пра законы мастацтва ўвогуле не выпадае. І менавіта ў сувязі з гэтым многія старонкі ў рабоце вядомага даследчыка выклікаюць жаданне… паспрачацца. Зрэшты, часам аўтар манаграфіі і сам сабе супярэчыць. З аднаго боку, адзначае, што той перыяд, які для нас сённяшніх ужо гісторыя, немагчыма спасцігнуць да канца. А з другога — дакарае аўтараў п'ес за тое, што паддаліся тэндэнцыі наўпростага адлюстравання ў сваіх творах палітычных лозунгаў — замест таго, каб выказаць мужнасць і дальнабачнасць. Іншымі словамі, крытыкуе пісьменнікаў 1930-х гг. з пазіцый сённяшняга дня. А ўслед за гэтым цытуе пастановы Пленума ЦК ВКП(б) як пацвярджэнне таго, што ў 1938 годзе «грамадства… змагалася за ўмацаванне атмасферы гуманістычных адносін у краіне». Думаецца, мэтазгоднасць захавання такіх спасылак у сучасным выданні кнігі варта было б перагледзець.

Сцяпан Лаўшук параўноўвае літаратуразнаўчыя і крытычныя ацэнкі адных і тых жа драматургічных твораў, якія рабіліся даследчыкамі розных пакаленняў. Гэта выглядае па-свойму цікава, паколькі адлюстроўвае найперш не асабістыя погляды канкрэтнага чалавека, а грамадскія тэндэнцыі часу: тое, за што ў 1930-х хвалілі, у 1980-х аднязначна ацэньвалася як недахоп. Вельмі цікавым выглядае «Заключэнне», у якім даецца кароткі разгляд сучасных тэндэнцый развіцця драматургічнага мастацтва і прыводзяцца разважанні А. Петрашкевіча, Л. Левановіча і М. Матукоўскага пра ўплыў творчасці і постаці Кандрата Крапівы на іх літаратурнае сталенне.

Даследчык беларускай драматургіі падкрэслівае, што, нягледзячы ні на якія цяжкасці, Крапіва змагаўся «супраць небяспекі эўфемізмаў», якая пагражала мастацкай праўдзе. За адстароненым навуковым аналізам яўна прачытваецца вялікая асабістая захопленасць аўтара постаццю свайго героя. Менавіта таму прысутнічае ў кнізе нібыта «агучванне думак» знакамітага пісьменніка альбо прынамсі спробы іх прачытання. А ў некаторых выпадках і жаданне апраўдаць творчыя няўдачы. «Крапіва застаецца Крапівой нават тады, калі садзіцца не ў свае сані», — адзначае даследчык. Найперш дзякуючы высокаму ўзроўню прафесіяналізму, у якім і бачыць аўтар манаграфіі сакрэт неўміручасці творчай спадчыны Кандрата Атраховіча.

**Жанна КАПУСТА**

# «Святую веру продкаў...»

## Шляхта як душа нацыі

**Споўнілася 70 гадоў Анатолю Статкевічу-Чабаганаву — чалавеку вялікай душэўнай чысціні, неспакойнага, гарачага сэрца, даследчыку энцыклапедычных ведаў, той прыцягальнай інтэлігентнасці, якой нідзе не навучыш, якая прысутнічае як нешта само сабой зразумелае. Уваходзіць з малаком маці, перадаецца па геннай спадчыне. Да пары дрэмле, каб пасля праявіцца на ўсю моц, заявіць ярка і паўнакроўна. Дый прыцягнуць іншых людзей, каб яны, адчуўшы гэтую прыцягальнасць, зразумелі: быць поруч менавіта з такім чалавекам — найвялікшая душэўная і духоўная асалода. Яшчэ ў большай ступені гэта можна адчуць, калі далучацца да ягоных набыткаў.**

Такую магчымасць дае Анатоль Васільевіч. Пацвярджэнне гэтаму — яго шматтомнае ўнікальнае даследаванне «Я — сын Ваш. Летапіс беларускай шляхты». На карпатлівую, плённую навукова-пошукавую працу А. Статкевіча-Чабаганава падштурхнула тое, што і сам паходзіць з беларускай шляхты, належыць да беларускага дваранства. Мікалай Карамзін жа некалі назваў дваранства «душою нацыі». На жаль, на працягу дзесяцігоддзяў дваран, як і прадстаўнікоў іншых «непрацоўных» саслоўяў, успрымалі толькі як эксплуататараў.



Анатоль Статкевіч-Чабаганаў.

Фота Кастуся Дробава.

Да такіх «эксплуататараў» належалі і продкі А. Статкевіча-Чабаганава. Нікому не было справы да таго, што яны — прадстаўнікі аднаго з самых даўніх на беларускай зямлі родаў — Сацкевічаў-Статкевічаў. Падрабязна пра родныя сувязі, дый не толькі і расказаў Анатоль Васільевіч у сваёй першай кнізе «Статкевічы, Сацкевічы герба “Касцеша”. Карафа-Корбуты герба “Корчак”». Прадстаўнікі першага са згаданых родаў у розныя часы праславіліся сваімі працоўнымі і ратнымі справамі. Багдан Вільгельмавіч Статкевіч (быў яшчэ і Багдан Іванавіч) актыўна абараняў праваслаўе. З жонкай Аляксандрай Саламярэцкай заснаваў некалькі манастыроў, фінансаваў дзейнасць Куцеінскай друкарні. Гэта ягоным коштам вядомы беларускі друкар, кнігавыдавец Спірыдон Собаль выдаў свайго «Апостала». У знак удзячнасці фундатару ён напісаў оду «На герб их милостей панов Стеткевичей», размясціўшы яе на зваротным баку тытульнага аркуша кнігі. У одзе адзначаецца даўнасць гэтага герба, тое, што слава Статкевічаў, быццам страла, узнялася ў неба і заўсёды будзе ў памяці людзей.

Раздвоеная страла, накіраваная ўгору, змешчана і на чырвоным фоне герба гэтага роду, а ў кляйнодзе, над прылбіцай, знаходзіцца шляхецкая карона з трыма страусавымі пер'ямі. Пазней згаданы знак пачалі называць «Стралой выратавання». Ён стаў і знакам серыі «Я — сын Ваш». Гісторыя ж герба «Касцеша» наступная. У бітве 1072 года пад Сноўскам асабліва праславіўся рыцар Касцеша. Ён, расказвае А. Статкевіч-Чабаганаў, «змагаўся ў глыбіні варожага стану, не зважаючы на зламаны меч, шматлікія крывавыя раны на целе, расшчэпленую на дзве часткі стралу, што засела ў плячы. Калі закончылася бітва і войска пачало збіраць здабычу, тады і з'явіўся перад каралём Касцеша. Ён стомлена зняў змяты і парыжэлы ад крыві баявы шлем і, паказваючы на сваё зраненае цела, сказаў: “Гэта і ёсць уся мая здабыча!”». Пра вялікую ж папулярнасць герба «Касцеша» сведчыць факт, што такую назву насіла і адна з яхтаў расійскіх імператараў. Дарэчы, у калекцыі Анатоля Васільевіча ёсць кубак з сервіза гэтай яхты. Ён выраблены на Імператарскім фарфоравым заводзе ў Санкт-Пецярбургу ў XIX стагоддзі.

Цікавасць да гісторыі свайго роду ў А. Статкевіча-Чабаганава з'явілася тады, калі даведаўся, што, хоць і нарадзіўся ў вёсцы Засмужжа цяперашняга Любанскага раёна, да рэвалюцыі 1917 года адхайменны маёнтак належаў яго дзеду Міхаілу Іванавічу Сацкевічу-Статкевічу і ягоным родзічам. Купілі яго ў князя Вітгенштэйна. Бабуля ж А. Статкевіча-Чабаганава, а таксама і прабабуля Наталля Васільеўна, мама дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча паходзілі з роду Карафа-Корбутаў герба «Корчак».

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў даследаваў восем галін роду Карафа-Корбутаў. Тую, да якой адносіцца сам, умоўна назваў «Карафа-Корбуты І». Прасочваюцца розныя людскія лёсы. На жаль, нярэдка драматычныя, а то і трагічныя. Што ж, як і прадстаўнікі роду Статкевічаў, Сацкевічаў-Статкевічаў, Карафа-Корбуты былі людзьмі заможнымі, а такіх у 20 — 30-я гады мінулага стагоддзя адразу адносілі да кулакоў, а кулакоў у лепшым выпадку высялялі, а то і адразу, без следства і суда, расстрэльвалі.

Ужо дзякуючы першай кнізе А. Статкевіча-Чабаганава адбыўся прарыў у гісторыю даўніх беларускіх шляхецкіх родаў. Канечне, і да яго на Беларусі ў згаданым кірунку сёе-тое рабілася. Аднак менавіта дзякуючы намаганням Анатоля Васільевіча праца гэтая набыла мэтанакіраваны, па-грамадзянску (дый па-навуковаму таксама!) даследчыцкі кірунак. Зразумела, вынік прыйшоў не адразу: дваццаць гадоў А. Статкевіч-Чабаганаў працаваў у архівах, бібліятэках.

Пачатае ў першай кнізе канкрэтызаваў далейшым паглыбленнем у сутнасць далёкіх падзей у кнізе другой, засяроджваючыся на лёсах тых, хто, часам не ўсведамляючы, працаваў на стагоддзі наступныя. А гэта цэлая кагорта людзей слаўных: Сыцькі герба «Астоя», Жданові́чы-Гурыновічы герба «Любіч», мяшчанскія роды Казанкіны і Чабаганавы, Арцішэўскія роду «Роля», Забелы роду «Тапор».

З тым жа гонарам, як і ў першых дзвюх кнігах, прамаўляе «Я — сын Ваш» і ў трэцяй кнізе «Некрашэвічы герба “Любіч”. Татуры герба “Данброва”. Сеўрукі герба “Курч”. Кернажыцкія герба “Юноша”. Маствіловічы герба “Даленга”». Даследчыцкія памкненні аўтара сур'ёзныя: ён знаходзіць цікавыя звесткі, што тычацца не толькі ягонага роду, але і тых родаў, якія ў розны час як бы перакрыжоўваліся са Статкевічамі-Чабаганавымі. Выступаючы першаадкрывальнікам, часам прамаўляе новае слова там, дзе, здавалася б, яго ўжо і сказаць немагчыма. Настолькі ўсё вядома. Ды ўсё ж дапоўніў нават самога Аляксея Талстога (кніга чацвёртая «Казановічы герба “Гржымала”»). Таго Талстога, які напісаў трылогію «Хаджэнне па пакутах».

Хто знаёмы з гэтым маштабным творам, не можа не запомніць генерала Казановіча, які «любил войну за ее пышный размах, за музыку боя, за громкую славу побед». Пра яго і расказаў Анатоль Васільевіч, падаўшы звесткі, якія, паводле мастакоўскай аўтарскай задумы, у «Хаджэнне па пакутах» не ўвайшлі, але веданне такіх фактаў дапамагае лепшаму спасцігненню пісьменніцкай задумы. Адбылося гэта дзякуючы таму, што А. Статкевіч-Чабаганаў падрабязна прасачыў гісторыю роду Казановічаў. Усяго ж ён вывучыў гісторыю больш як сарака вядомых шляхецкіх родаў Беларусі. Найперш тых, прадстаўнікі якіх у той ці іншай ступені ягоныя прашчуры. Нездарма кажуць, што свет цесны. Належачы да роду Стацкевічаў, Сацкевічаў-Статкевічаў і Карафа-Корбутаў, Анатоль Васільевіч знаходзіцца ў сваяцтве і з Казановічамі.

А як шмат папрацаваў Анатоль Васільевіч, пішучы біяграфію таленавітага прадстаўніка беларускага інсітнага мастацтва Паўла Марціновіча! Да аўтара гэтых радкоў ён не мае ніякага дачынення. Як і да паэта Паўла Марціновіча. Асобна выходзіла нават кніга кніга-альбом А. Статкевіча-Чабаганава «Маляваныя сны Паўла Марціновіча». Цяпер пра гэтага цікавага творцу распавядаецца і ў пятай кнізе «З гісторыі вёскі Засмужжа Любанскага раёна. Мастак Павел Марціновіч. Тычыны гербаў “Тучынскі” і “Тржаска”. Рудзінскія герба “Прус III”».

Ва ўсіх кнігах А. Статкевіч-Чабаганава ўдала суседнічаюць навуковасць і папулярнасць. Пра гэта сведчыць і багаты ілюстрацыйны матэрыял — копіі гістарычных дакументаў і фотаздымкаў, у многіх выпадках вельмі рэдкіх, а то і адзінкавых у сваім родзе. З імі, несумненна, з задавальненнем пазнаёміцца не толькі вучоныя-гісторыкі, архівісты, архівары́сы, але і так званы шырокі чытач. Не ў апошнюю чаргу гэтыя кнігі будуць карысныя выкладчыкам гісторыі.

Услухаемся ў словы, што прамаўляе А. Статкевіч-Чабаганаў у пачатку кожнай сваёй кнігі:

*Святую веру продкаў,*
*свой род,*
*культуру і Айчыну*
*шануй і беражы.*

Словы гэтыя — не проста заклік. Яны нібыта паэзія — простая, шчырая, зямная (і ад гэтай шчырасці адкрытая і вабная) — напаўняюць душу, робяць цябе аднадумцам аўтара. А дзе паэзія — там і жыццё. Не толькі нашае, а і тых, хто, дзякуючы памяці, вяртаецца з нябыцця.

Падзвіжніцкая, адраджэнская дзейнасць Анатоля Васільевіча заўважана і належным чынам ацэнена. А. Статкевіч-Чабаганаў — лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2012 года «За ўклад у вывучэнне і прапаганду духоўнай і культурнай спадчыны, стварэнне серыі гісторыка-дакументальных кніг “Я — сын Ваш”, прысвечаных дваранскім родам Беларусі». За першы том свайго даследавання ён узнагароджаны прэміяй «Залаты Купідон». Лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Расіі, Акадэміі навук Расіі і Інстытута сусветнай літаратуры «Залатая восень» імя С. Ясеніна. Ды акрамя даследчыцкай дзейнасці Анатоль Васільевіч шмат піша. Для яго не чужое і тое, без чаго цяжка ўявіць сапраўднага вучонага. Ён выступае на многіх навукова-практычных канферэнцыях, у тым ліку і міжнародных, на розных прэзентацыях, выстаўках.

Рэгулярна праводзіць і прэзентацыі сваіх кніг, ахвотна дорыць іх зацікаўленым чытачам. Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі перадаў ажно 500 асобнікаў! Трапілі яны і ў іншыя бібліятэкі. Падпісаў Дагавор аб перадачы Нацыянальнай бібліятэцы электронных копій сваіх кніг, што, безумоўна, пашырыць кола чытачоў. Кожны зможа знаёміцца з ім як пабеларуску, так па-руску, у залежнасці ад таго, які варыянт зацікавіць.

Шляхі да вяртання нацыянальнай памяці, зразумела, розныя, але, бадай, найбольш перспектыўны той, што ідзе праз веру і вядзе для далейшага ўсталявання, умацавання веры праваслаўнай. Менавіта яна, у рэшце рэшт, і вярнула род Статкевічаў, Сацкевічаў-Статкевічаў з нябыцця, а ўжо праз вяртанне аднаго роду адбылося вяртанне іншых. Дарэчы, серыю гэтых кніг ён у свой час заснаваў па благаслаўленні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Падтрымлівае намаганні праваслаўнай царквы па ўсталяванні міру і згоды ў грамадстве. Ён стаў арганізатарам помнікаў святой благаверпай Сафіі, княгіні Слуцкай, у самім Слуцку, а таксама ў Мінску. Браў удзел і ва ўзнаўленні храмаў Касмы і Даміяна ў мястэчку Вішнева Валожынскага раёна, а таксама Узнясення Гасподняга ў вёсцы Сёмкава, Раства Божай Маці ў вёсцы Сёмкаў Гарадок Мінскага раёна.

Што б ні рабіў А. Статкевіч-Чабаганаў, без перабольшвання, піша гісторыю Беларусі. Праз пакручастыя лёсы прадстаўнікоў розных родаў. Праз жыццяпіс сваёй роднай вёскі Засмужжа. Праз далучэнне да старонак біяграфіі мастака-інсітніка П. Марціновіча. Праз... Пералік можна доўжыць, бо, чытаючы, перачытваючы ягоныя кнігі, пастаянна адкрываеш нешта новае, зноў і зноў упэўніваешся, наколькі багатая Беларусь па людзей, вартых увагі. Пераконваешся і ў іншым: як кожная нацыя цікавая сама па сабе, так і кожны чалавек нечым вылучаецца. Нават тады, калі, здавалася б, нічога такога адметнага не зрабіў. Але ён жыў. І ён будзе жыць, калі ёсць такія людзі, як А. Статкевіч-Чабаганаў. Ён жа, па сутнасці, і стварае пантэон нацыянальнай памяці. Нярэдка пра некаторых праводзіць кароткія звесткі. Калі нарадзіўся, памёр. Дзе жыў... Дый пра гэта не заўсёды гаворыцца. Не ўсё захавалася, дый не ўсё ўдалося знайсці. Але след пра чалавека застаўся. Дзякуючы Анатолю Васільевічу. Дзякуючы ягонай падзвіжніцкай, апантанай працы.

Кнігі, якія піша А. Статкевіч-Чабаганаў, спрыяюць духоўнаму адраджэнню нацыі. Болей за тое, яе адзінству, згуртаванню. Адначасова гэта і напамін усім нам: старайцеся пісаць калі не гісторыю свайго роду, дык хоць бы сям'і. Тое, што можаце зрабіць самі, ніхто за вас не зробіць. Чым хутчэй зразумееце гэта, тым важней.

Ускосна пра гэта напамінае і прамоўленае Анатолем Васільевічам на адным дыханні ў яго першай кнізе ў раздзеле «Час збіраць камяні»:

*Рака мая, радавод мой!*
*Вы не канулі ў Лету!*
*Лёсу было неабходна, каб я стаў*
*летапісцам вашым.*
*І няма высакароднай працы,*
*Бо я — часцінка ваша, ваш прыток.*
*Я — сын Ваш.*

Дарэчы, хутка зможам пазнаёміцца з чарговымі кнігамі А. Статкевіча-Чабаганава — шостай і сёмай.

Станем жа падобнымі летапісцамі і ўсе мы, неабыякавыя да гісторыі, да зберажэння нацыянальнай памяці.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ЛЕПШЫЯ ВЫСТАЎКІ ЛІСТАПАДА: КУДЫ ВАРТА СХАДЗІЦЬ?

## МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ «ПРАДМЕСЦЕ»

1 **Што?** Выстаўка майстра сюррэалізму Георгія Скрыпнічэнкі «Вобраз у далі» другая ў Мінску. Яшчэ адна дэманструецца ў Нацыянальным мастацкім музеі (чытайце ў № 46).



*«На Усход, на Захад», 2009 г.*

**Дзеля чаго?** Дзве выстаўкі працуюць у сталіцы невыпадкова. Гэта своеасаблівая задума кіраўніцтва галерэі, каб даць магчымасць аматарам мастацтва пазнаёміцца з рознымі перыядамі творчасці аўтара, зразумець яго, адчуць талент і свабоду ад штампаў і стэрэатыпаў. Георгій Скрыпнічэнка пакінуў неверагодную спадчыну. Нацыянальная тэма прадстаўлена не проста і банальна — а праз асобныя мастацкія коды, штрыхі і аўтарскую вобразнасць.

**Чаму ісці?** Калі ў Мастацкім музеі прадстаўлены ў асноўным вядомыя творы Георгія Скрыпнічэнкі, то, па словах сына мастака, работы, якія экспануюцца ў галерэі «Прадмесце», майстар пісаў «у стол». Сёння, канечне, незразумела, чаму на працягу доўгіх гадоў гэтыя мастацкія кампазіцыі былі схаваныя ад людскога вока, але ж тое, што яны «выйшлі» за межы майстэрні, — унікальная падзея.

## АРТ-ГАСЦЁЎНЯ «ВЫСОКАЕ МЕСЦА»

2 **Што?** «Неба і зямля» — выставачны праект скульптара Ігара Засімовіча, своеасаблівае паглыбленне ў свет міфалогіі. Кожны мастацкі твор аўтара — сімволіка розных сусветных працэсаў, расчытаць якую зможа падрыхтаваны да філасофскіх разваг.

**Дзеля чаго?** Ігар Засімовіч працуе ў напрамках манументальнай, манументальна-дэкаратыўнай, жанравай, мемарыяльнай і станковай скульптуры. Яго новая выстаўка — нібыта археалагічная экспедыцыя са шматлікімі цікавымі знаходкамі: ад незвычайных матэрыялаў да загадкавых кампазіцый.



*«Арфа».*

**Чаму ісці?** Калі вы любіце разважаць пра метафізічнае альбо размаўляць з мастаком праз яго творы, неабходна наведаць выстаўку «Неба і зямля». У творчасці Ігара Засімовіча адчуваецца пяшчота і любоў да гісторыі, міфалогіі, якой часта не хапае ў мітусні дзён. Дарэчы, аналізуючы творы аўтара, прыходзіш да разумення: чалавек, які не губляе сувязі з мінулым, становіцца больш моцным, як інтэлектульна, так і духоўна, таму што калі карані застаюцца ў зямлі, яны падсілкоўваюцца з яе.

## ГАЛЕРЭЯ «МАСТАЦТВА»

3 **Што?** Нягледзячы на тое, што Андрэй Савіч яшчэ даволі малады аўтар, у беларускім мастацтве ён змог знайсці сваю нішу ў творчасці, заслужыў прызнанне ў калег «па цэху» і гледачоў. Праект «Мастацкі рэалізм» — зварот да традыцыйных тэм у творчасці і адначасова пошук новых складнікаў.

**Дзеля чаго?** Андрэй Савіч сінтэзуе графіку і жывапіс, выкарыстоўвае каліграфію. Звяртае ўвагу на ўрбаністычныя працэсы, іх змянлівасць. У адным творы мастак акцэнтуе ўвагу як на вялікія цэласныя аб'екты, так і на дробязі. Не хавае эмоцый, не стрымлівае сябе. Стаўленне да падзей, адлюстраваных у яго сюжэтах, падкрэслівае колерам.

**Чаму ісці?** Убачыць новыя творы Андрэя Савіча варта, каб ацаніць індывідуальныя рысы, адметны аўтарскі почырк. Творы дэманструюць шчырае стаўленне мастака да гарадской прасторы.



*«Вечаровы настрой», 2016 г.*

## «ГАЛЕРЭЯ ДК»

4 **Што?** У галерэі класічнага і сучаснага мастацтва «Галерэя ДК» працуе выстаўка жывапісу маладой беларускай мастачкі Алесі Скарабагатай з інтрыгоўнай назваю «Таямніца» — для тых, хто шукае натхнення.

**Дзеля чаго?** Ёсць выстаўкі, якія натхняюць на творчасць, выстаўкі, дзе нараджаюцца вобразы… У нацюрмортах Алесі Скарабагатай — варта толькі прыслухацца — рэчы перамаўляюцца, як жывыя. Гэтыя дыялогі нагадваюць казкі Андэрсэна. У іх глыбінны, містычны падтэкст. Яе пейзажы заварожваюць святлом жывой прасторы, якая быццам пульсуе. Так і хочацца пераступіць мяжу і апынуцца там, у чароўным свеце, здавалася б, такой знаёмай і ў той жа час фантастычнай рэальнасці. Яе партрэты выяўляюць неспазнаную глыбіню Асобы. Яе творы — гэта вострасюжэтная драматургія. Яе творы — гэта высокая паэзія.



*«Танец светлякоў».*

**Чаму ісці?** Пра таямніцу Алесі Скарабагатай на адкрыцці гаварылі і выдатны жывапісец Мікола Ісаёнак, і слынны мастак, загадчык кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Уладзімір Зінкевіч, і вядомы фотамастак, мастацтвазнаўца, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхась Баразна. Колькі гадоў таму яны аднымі з першых заўважылі і падтрымалі ўнікальны талент. Яшчэ навучэнкай Мінскай гімназіі-каледжа мастацтваў Алеся Скарабагатая стала пераможцам Рэспубліканскага мастацкага конкурсу, лаўрэатам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. З поспехам скончыла аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе цяпер выкладае. Яна стажыравалася ў Варшаве і Вене. І, самае галоўнае, на Першым і Другім Восеньскіх салонах з Белгазпрамбанкам двойчы атрымала самую галоўную ўзнагароду — прыз глядацкіх сімпатый. Але гэта ўсё застаецца за кадрам, калі пераступаеш парог незвычайнай выстаўкі. Дзе кожнага чакае неразгаданая Таямніца…

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

5 **Што?** Выстаўка карцін са шкла «Каханне — гэта палёт», прысвечаная творчасці Марка Шагала. Усе творы зробленыя па матывах сюжэтаў вядомага аўтара з Віцебска ў студыі вырабаў са шкла «Аліса ў Залюстроўі» ў тэхніцы ф'юзінг (спяканне выкладзенага пэўным чынам шкла ў печы).



**Дзеля чаго?** Галоўная мэта праекта — даць магчымасць дзецям з парушэннем зроку адчуць творчасць Марка Шагала навобмацак. Карціны зробленыя такім чынам, што дзеці змогуць адчуць і іх стылістычны кірунак, зразумець аўтарскія вобразы. Гэта вельмі карысна: маленькія з цікавасцю прыходзяць на выстаўку. У іх узросце дастаткова складана асэнсаваць значнасць творчасці вядомага мастака, але факт, што такі праект арганізаваны для іх спецыяльна, дапамагае малым зацікавіцца аўтарам і яго біяграфіяй.

**Чаму ісці?** На выстаўку будзе цікава схадзіць і дарослым, неабыякавым да мастацкай спадчыны Шагала. Інтэрпрэтацыя жывапісных твораў у шкле ўражвае. Магчымасці мастацтва і работы Марка Шагала раскрываюцца з іншага боку.

**Паласу падрыхтавалі Вікторыя АСКЕРА і Галіна БАГДАНАВА**

# За крок ад інсайту

## Фільмы пра рашучыя ўчынкі ў «Маладосці на маршы»

**На Мінскім міжнародным кінафестывалі сёлета маладосць перацягвала на сябе коўдру: кіно пра маладых, знятае маладымі, панавала на кінематаграфічнай мапе «лістападаўскага» свету. Наогул, для аўтараў-пачаткоўцаў на кінафестывалі вылучана асобная катэгорыя — «Маладосць на маршы», цалкам прысвечаная дэбютным стужкам рэжысёраў, па чым можна меркаваць пра перспектывы развіцця кінамастацтва.**

### ПОЗІРК У ВЕЧНАСЦЬ

Некаторыя з гэтых фільмаў выдатна пасуюць для прагляду пахмурнымі вечарамі, некаторыя — для спасціжэння сэнсаў і ісцін, над некаторымі трэба доўга і моцна думаць. І кожнай з гэтых стужак можна наталіць мастацкую смагу.

«Срэбра Лістапада», а адпаведна і перамогу ў «Маладосці на маршы», атрымала стужка Олівера Лакса «Мімозы». Журы адзначыла фільм за спалучэнне фальклорнага, казачнага пачатку з сучаснай кінамовай: тут тонка асэнсоўваюцца вера і традыцыі, ствараюцца паралельныя светы. «Мімозы» ўжо ацанілі на тыдні крытыкі Канскага кінафестывалю: стужка атрымала галоўны прыз. Гэтае роўд-муві можна назваць метафізічным падарожжам у глыбіні веры, свядомасці і сябе. Сам рэжысёр называе стужку рэлігійным вестэрнам, дзе гаворка не толькі пра рэлігійныя інстытуты, але і пра веру, вечнасць.

«Мімозы» — кіно яшчэ і пра шлях, які ты адольваеш ці не адольваеш у залежнасці ад упэўненасці ў правільнасці выбару, кіно пра залежнасць адно ад аднаго, пра ментальныя сувязі і любоў. І галоўнае — тут шмат трансцэндэнтнага, гэта фільм-рэбус, але і фільм-інсайт.

Пошукі зусім іншай вечнасці працягваюцца ў мексіканскай «Машынерыя Панамерыкана». Кіно, якое пачынаецца быццам з гуку звона, які аказваецца стукам лому па бетоннай дарозе, — тут зусім іншая рэлігія, імя якой «Машынерыя Панамерыкана», якая вось-восьператворыцца ў руіны. Кіно Хаакіна дэль Паса — гісторыя, якая ў чарговы раз даказвае, што павярнуць час у адваротны бок немагчыма (выключэнне — калі гэта робіцца на плёнцы). Супрацоўнікі прадпрыемства «Машынерыя Панамерыкана» спрабуюць склеіць свае жыцці з аскепкаў, робяць выгляд, што нічога ў іх агульнай гісторыі не адбываецца, ратуюць сябе, а атрымліваецца толькі загразнуць у пакутах — такая вось вечнасць.

### САМАПОШУКІ

Героям маладых стужак уласціва шукаць сябе. Спачатку яны, канечне, сябе губляюць. Як згубіў Вітас з літоўскай правінцыі ў фільме «Святы» (адзначаны спецыяльным прызам журы за гуманістычнасць карціны, за дзівосную акцёрскую ігру). «Святы» — кіно пра тое, што ж будзе, калі не стае працы, калі жонка прымушае хутчэй шукаць новую, але ты сам хочаш зусім іншага: напрыклад, знайсці таго, хто бачыў Ісуса Хрыста.

«Ніхто» — з той жа оперы. Кіно пра маргіналаў, якія, здавалася б, ведаюць, чаго хочуць, але штосьці перашкаджае ім рабіць задуманае. А перашкаджае рознае: хтосьці моцна любіць сваю сям'ю і не хоча пакідаць бацькоў на волю лёсу; камусьці бацька не дазваляе; хтосьці жыве з цёткай — рэлігійным фанатыкам.

У пачатку стужкі можа падацца, што кіно пра тых, хто звязаўся з дрэннай кампаніяй. Выглядаюць героі менавіта так. Але іх светам знешнасць не мае нічога агульнага з унутраным: яны не цікавяцца забароненымі забавамі, а любяць жангліраваць, яны не паводзяць сябе як прадстаўнікі вулічных банд, а мараць выправіцца ў падарожжа па Лацінскай Амерыцы, спрабуюць пачаць рэвалюцыю свядомасці праз малюнкі-графіці. Складаецца ўражанне: усе гэтыя пошукі сябе, жаданні і навязлівыя думкі не ад таго, што ім сумна жыць, — проста дзеці-маргіналы выраслі, цяпер ім хочацца хоць нечага ў жыцці дасягнуць.



*Кадр з фільма «Мімозы».*

У «Дзікіх розумам» шукаюць сябе ўсе героі: мужчына, жанчыны, дзеці. Часам здаецца, што фільм не пра гэта, а пра межы чалавечай жорсткасці і ўтрыманне сябе ў гуманістычных межах. Разам з тым гэта стужка і пра справядлівасць, пра адказнасць і непакорлівасць.

Вельмі важная ў гэтым фільме сюжэтная лінія з жывёламі — іх тут шмат, быццам бачыш паралель паміж светам людзей і жывёл. Рэжысёр Вім Вандэкейбус адзначае, што «Дзікія розумам» — пратэст супраць дарослага свету, супраць правілаў і залежнасці, гімн свабодзе. Праз люстэрка дзяцей-дарослых глядач зразумее і кошт выбару, і кошт адказнасці, і каштоўнасць уласнай свабоды.

### ПЕРАТВАРЭННІ

Нельга сказаць, што ў сёлетнім «Лістападзе» не было месца для чараўніцтва — героі стужак спрабуць стаць кімсьці іншым. У фільме «Заалогія», які зняў малады і дзёрзкі Іван Твярдоўскі (адна з надзей сучаснага расійскага кінематографа), гісторыя, якую можна звязаць з Гогалем, — фантасмагорыя, ахутаная нашай рэальнасцю. Тут шмат іроніі, алегарычнасць. Бачна, што рэжысёр трымае курс на заходняга гледача.

З першай секунды задумваешся: няўжо сапраўды нашае жыццё на экране выглядае так недарэчна? Галоўную гераіню, якая працуе ў заапарку, акружаюць жывёлы. На жаль, не толькі на працы, але і наогул — у горадзе, у бальніцы, паўсюль. Твярдоўскі паказвае нашу рэальнасць брыдкай — з усімі плёткамі, хлуснёй, неахайнасцю, нашай верай у забабоны, звальненнямі быццам па ўласным жаданні, лекцыямі пра тое, як стаць упэўненым у сабе. У Івана Твярдоўскага «Заалогія» ператвараецца ў «Антрапалогію», а таблічка «Асцярожна, драпежнік!» звернута ў фільме нават не да жывёл, а да людзей, паводзіны якіх прымушаюць задумацца над рэальнасцю.

Сачыць за ператварэннямі людзей давялося і ў стужцы канадца Філіпа Лезажа «Дэманы». Тут і вобразы дзяцінства, і ўсе комплексы, якія ідуць побач з маладым хлопчыкам падчас сталення. Але гэта не кіно пра дзяцінства ў класічным разуменні — мы заўважаем, як маленькі Фелікс з кожнай хвілінай становіцца іншым чалавекам, маральна сталее, але тое ж самае адбываецца і з яго наваколлем. Фраза «Дэманы ўнутры нас» вельмі пасуе да ўсяго, што адбываецца ў стужцы.

У «Дэманах» Лезаж паказаў дзіцячыя фантазіі, страхі, якія набываюць візуалізацыю на вялікім экране. Ніякай містыкі — жыццё такое. Рэжысёр адзначыў, што для фільма выкарыстоўваў уласную гісторыю. Аўтар шукае сямейныя каштоўнасныя арыенціры, дае зразумець, што знешнасць — не толькі зманлівая, але і вельмі хітрая. Асабліва калі дэманы, якія жылі ўнутры, збіраюцца выйсці вонкі.

### УЗГАДАЦЬ МІНУЛАЕ

Зрабіць гэта можна па-рознаму. Хтосьці ўзгадвае прыемнае, хтосьці — наадварот. Хтосьці шукае ў сябе і ў гісторыі сваёй краіны белыя плямы і час, калі ты «звярнуў не туды». Час, які застаецца ў мінулым, дае прычыны для роздумаў.

Эрэз Пэры, ізраільскі рэжысёр фільма «Допыт», па-новаму адкрыў для сябе гісторыю свайго народа і асобнага чалавека. Аўтар займаўся даследаваннямі і знайшоў дзённік, надрукаваны шмат гадоў таму. Гэта былі мемуары Рудольфа Хёса (начальніка канцлагера Асвенцым). Пэры адзначыў, што ў Ізраілі пра гэта ў школах не распавядаюць, таму прачытанае яго ўзрушыла (большая частка гісторыі яму не была вядомая). Хёс — гэта «чалавек, як мы з вамі», і было важным «зразумець, як людзі спраўляліся з тым, што ўнутры іх». Менавіта пра гэта і стужка «Допыт», якую ў Ізраілі паказваць не хочуць. З аднаго боку, гэта кіно, якое па-новаму глядзіць на тэму вайны: самой вайны ў кадры няма, але ёсць нешта яшчэ больш трагічнае. Фільм пра людзей, якія вымушаны падпарадкавацца чыёйсьці волі: ці гэта асуджаны немец або следчы, які яго дапытвае.

Зусім іншае асэнсаванне часу і мінулага ў стужцы малайзійскага рэжысёра Брэдлі Лью «Той, што спявае на могілках». Стваральнік фільма — вядомы азіяцкі прадзюсар, які працуе з легендарным Лавам Дзіясам (рэжысёр нават выканаў адну з роляў у фільме Лью), а сёлета ён дэбютаваў у рэжысуры, і кіно атрымалася змешаным: ці то дакументалка, ці то мастацкая стужка (дваістасць адчуваецца адразу). Дакладна вядома адно: фільм пра тых, для каго музыка не проста захапленне, а прынцып жыцця. Пра чалавека, які прывык быць іншым і нават амаль страціў сябе. Суровы мужчына, які снедае толькі шакаладнай кашай, шукае натхнення ў памерлых музыкаў і не ведае, як захаваць сваю асобу. У стужцы ёсць цікавы момант: маленькае ягнятка, якое перыядычна ўзнікае на шляху героя, пасля змяніцца на адзінокага ваўка.

### НОВЫЯ ГЕРОІ

Ці ведаеце вы, хто такі Олі Мякі? Пасля прагляду стужкі фінскага рэжысёра Юха Куасманена — дакладна будзеце. «Самы шчаслівы дзень у жыцці Олі Мякі» — лірычнае, мяккае, пачуццёвае кіно, чорна-белая рэтрастужка, часам нагадвае карціны Гадара. Пра гэты фільм адзначаюць, што ён варты сотні каляровых карцін, бо тут і атмасфера мінулага, і маладосці, і новыя героі, пра якіх трэба ведаць. У аснове фільма — рэальная гісторыя спартсмена, і калі рэжысёр сустракаўся з Мякі, каб паразмаўляць наконт сюжэта, то Олі ўсміхнуўся і сказаў, што дзень яго вялікай спартыўнай паразы стаў самым шчаслівым у жыцці.

Таму што каханне ўзяло верх. Як бы там ні было, гісторыя Олі Мякі — гэта гісторыя не спартсмена, а менавіта кахання. Цікава, што паняцце «шчаслівага дня» для кожнага з герояў фільма рознае: для кагосьці перамога, для кагосьці параза. Мякі вырашыў, што не хоча жыць па тых правілах, якія яму навязалі, так, як яму кажуць. Аднаго ён не ўлічыў: каханне — таксама свайго роду спорт. Тут таксама давядзецца пазмагацца за тытул.

Калі ў Фінляндыі новыя героі — асобы рэальныя, то японцы герояў ствараюць. У стужцы «Двайное жыццё» галоўная гераіня шукае свайго выпадковага «героя». Цікава, што ў фільме ўздымаецца тэма пераследу, а гледачы з'яўляюцца «злачынцамі»: таксама назіраюць за «героем». Часам падаецца, што ў стужцы шмат штучнага, але чым далей заходзіць гераіня, тым больш верыш ва ўсё, што адбываецца. Амаль усе ў фільме вядуць двайное жыццё, нават рэальнасць паўстае падвоенай: якая ёсць і якой мы яе ўспрымаем.

Гледачы становяцца сведкамі разбурэння жыццяў, шукаюць адказы на рытарычныя пытанні, даведваюцца не толькі пра герояў, але і паспяваюць прааналізаваць сябе, — усё не тое, чым здаецца. Апошняя фраза датычыць і стужкі «Забойныя здымкі». Тут штучнага таксама хапае, але яно арганічна спалучаецца з сапраўдным, ды і падманваюць зусім не гледача…

Упершыню ў Беларусі прадстаўленая карціна з Лівана «Забойныя здымкі». Зараз яна ў топе фільмаў, якія прэтэндуюць на прэмію «Оскар». Кіно гангстарскае, цікавае сваёй жанравасцю, з вострай арабскай прыправай. Сюжэт таксама жыццёвы: кіно пра трох братоў, знятае тымі самымі братамі. Фільм пра тое, як здымаюць фільм.

«Забойныя здымкі» звяртаецца да сур'ёзных рэчаў — да рэфлексіі на рэальнасць, да творчай прасторы ў жыцці чалавека, да тонкіх межаў паміж сапраўдным і выдуманым. Словам, фільм пра тое, як кіно можа ператварыць краіну. Як і астатнія «лістападаўскія» стужкі.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# З коласаўскай энергіяй

## Віцебскі абласны драматычны тэатр святкуе 90-годдзе

**За гады свайго існавання Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа здабыў славу не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, займеў свае традыцыі. Пра гэта ў святочныя дні гавораць славутыя артысты тэатра.**

### ЦЁПЛА І РАДАСНА ПРАЦАВАЦЬ

Тадэвуш Антонавіч Кокштыс ганарыцца тым, што заспеў першае пакаленне акцёраў-коласаўцаў, сярод іх народны артыст СССР Аляксандр Канстанцінавіч Ільінскі. Народны артыст БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Тадэвуш Кокштыс працуе ў тэатры імя Якуба Коласа з 1958 года. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (курс прафесара Д. Арлова). На коласаўскай сцэне сыграў больш за 150 роляў, шмат здымаўся ў кіно. Акцёр узнагароджаны ордэнамі Францыска Скарыны. Цікава, што Тадэвуш Антонавіч марыў вучыцца на мастака, але лёс вырашыў інакш:



*Тадэвуш Кокштыс.*

— Яшчэ хацелася працаваць у горадзе, які мне падабаўся, у Гродне! Але там аказаўся рускамоўны тэатр. А я ж быў хлопец, між Валожынам і Маладзечнам нарадзіўся. Калі ўпершыню трапіў у Коласаўскі тэатр, ён мне падаўся вельмі цёплым... Мяне і яшчэ двух выпускнікоў інстытута сустрэлі вельмі добра. Напэўна, мы былі цікавымі і падавалі надзеі на будучыню. І трупа не памылілася, што прыняла нас. Мы сталі акцёрамі. Нас палюбіў тэатр, а мы палюбілі яго.

Артыст распавёў, што, на жаль, некаторыя акцёры проста «збеглі ад правінцыі». І часта з-за таго, што не было спосабаў, каб падзарабіць: напрыклад, тэлебачання, кінастудыі.

— Гэта складана было для многіх. І пабеглі ў сталіцу, каб выжыць. А калі мы прыйшлі, перш за ўсё займаліся прафесіяй — той, якой нас вучылі, — акцёрствам. Вучыліся, гледзячы на старэйшых... — гаворыць Тадэвуш Кокштыс. — Мы не распыліліся, і гэта ў прафесійным плане дапамагло. А ў сталіцы, на мой погляд, многія акцёры бегаюць і не паспяваюць паглыбіцца ў сутнасць ролі і спектакля... Нам у гэтым плане было цяжэй, затое працаваць радасна.



*Пятро Ламан.*

### ЛЕПШ — ПА-БЕЛАРУСКУ

— Лічу, што тэатр Я. Коласа — еўрапейскага ўзроўню. І так было заўсёды, — кажа Пятро Ламан, які служыць у тэатры імя Якуба Коласа з 1971 года, пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (курс Уладзіміра Маланкіна). — Першая мая роля была ў масоўцы спектакля «Несцерка». Як жартуючы кажу, у галоўнай ролі: «чалавека з народа». Гэты спектакль я ведаў з першага да апошняга слова. Такая асаблівасць памяці: усё, што падабаецца, запамінаю.

«Несцерка» — візітоўка віцебскага тэатра, як «Паўлінка» — Купалаўскага. Цікава, што падчас выступлення ў Наваполацку спадар Ламан умудрыўся сыграць у «Несцерцы» аж дзве ролі. Прыйшлося замяніць калегу па сцэне, які праблытаў час і не прыйшоў іграць... Дзясяткі гадоў Несцерку іграў народны артыст СССР Фёдар Іванавіч Шмакаў. Спектакль гэты — «доўгажыхар», бо пастаўлены напярэдадні Вялікай Айчыннай, і, як ні дзіўна, у эпоху інтэрнэту запатрабаваны.

Артыст Пятро Ламан — яшчэ паэт і празаік. Падкрэслівае, што да прозы яго падштурхнуў зямляк Янка Брыль. Адчувае прыгажосць беларускага слова і як перакладчык. Артыст — аўтар выдатнага перакладу спектакля «Брэменскія музыкі», які каля 20 гадоў іграюць у «Беларускім тэатры "Лялька"». Многія гледачы штогод здзіўляюцца таму, што знакамітая казка выдатна гучыць па-беларуску. Пятро Ламан актыўна прапагандуе мастацтва беларускага тэатра на творчых сустрэчах. Сёлета Пятра Аляксандравіча ўзнагародзілі медалём Францыска Скарыны.

— Наконт высокага ўзроўню нашага тэатра магу распавесці шмат. Знакаміты рэжысёр Барыс Эрын пасля Кіеўскага тэатра драмы імя Лесі Украінкі, мінскага Купалаўскага быў галоўным рэжысёрам у нашым Коласаўскім тэатры. Але яшчэ ў якасці запрошанага рэжысёра ў нас паставіў «Уладу цемры» па п'есе Льва Талстога. Спектакль паказалі ў Маскве. І на калегіі Міністэрства культуры СССР крытык сказаў: «Як ні дзіўна, але п'еса Талстога па-беларуску гучыць лепш, чым па-руску!..»

### НА СЦЭНУ — З АСАЛОДАЙ

— Спектакль «Улада цемры», можна сказаць, якасна вызначыў наш тэатр, — дзеліцца ўспамінамі народная артыстка Беларусі, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», уладальніца ордэна Францыска Скарыны Святлана Акружная. — Пасля спектакля артыстаў у Маскве чакалі, каб пазнаёміцца. А члены таварыства талстоўцаў кошыкі кветак дарылі, і мне таксама. У Маскве сказалі, што гэты спектакль — адзін з лепшых у краіне. Тое ж — і пра «Зацюканага апостала» паводле Макаёнка. А спектакль «Таблетка пад язык» лепшы, чым у Тэатры сатыры. Моцным быў і спектакль «Клоп» рэжысёра Барыса Эрына. Ставілі спектаклі розных жанраў і высокага ўзроўню…

Магу без перабольшвання канстатаваць, што Коласаўскі ўваходзіў у дзясятку лепшых тэатраў СССР. Мы ездзілі на гастролі па ўсім былым Саюзе...

Святлана Арцёмаўна служыць у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа з 1969 года, прыйшла пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (курс прафесара Д. Арлова). Артыстка падкрэсліла, што традыцыі ў тэатра выдатныя. Галоўнае — каб была пераемнасць:



*Святлана Акружная.*

— Перш чым выходзіць на сцэну, трэба думаць: навошта? Для чаго ты тут? Што ты робіш на сцэне зараз? Важна нават не словы, якое мы нясём, а энергетычны пасыл! Думкі! Артысты вучацца на добрым матэрыяле. І перадаюць гледачам думкі аўтараў і сваё стаўленне... Талент — тое, што ўнутры сядзіць, выспявае, як вулкан, і хоча вырвацца вонкі. Гэта думкі, якія рухаюць наперад. І тады выходзіш на сцэну з асалодай. Моладзі хачу пажадаць добрых рэжысёраў. Кожнаму трэба вызначыцца, дзеля чаго ён у тэатры, і знайсці свой шлях.

Артыстка ўпэўненая, што прагрэс у краіне забяспечваецца тады, калі эканоміка і культура развіваюцца ў суладдзі, гэта два ўзаемазвязаныя звёны аднаго ланцужка, які аб'ядноўвае грамадства. Таму актрыса марыць, каб Год культуры быў заўсёды…

* * *

21 лістапада коласаўцы адсвяткавалі юбілей. Напярэдадні адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Беларускі нацыянальны тэатр: традыцыі, пошук, эксперымент». Ідэя яе правядзення належыць тэатру. Яго падтрымалі Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава, абласны краязнаўчы музей і Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці. Апошні раз даследчыкі тэатра збіраліся ў Віцебску 20 гадоў таму.

**Аляксандр ПУКШАНСКІ.**

**Фота прадастаўлена адміністрацыяй тэатра.**

# Харэограф Раду Паклітару: «Узровень нашых артыстаў расце»

**Чаканым госцем на XXIX Міжнародным фестывалі сучаснай харэаграфіі ў Віцебску стаў украінскі тэатр «Кіеў-Мадэрн Балет» з прэм'ерным спектаклем «Жызэль» Адольфа Адана. Прафесійная кар'ера Раду Паклітару, харэографа, мастацкага кіраўніка і дырэктара тэатра, пачыналася ў нашай краіне, таму да яго творчасці — асаблівая цікавасць.**

**— Вы неаднаразова былі сябрам журы розных харэаграфічных конкурсаў. На ваш погляд, у чым адрозненне Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі, што ладзіцца ў Беларусі, ад іншых падобных фестываляў? Ці вылучаюцца беларускія танцоўшчыкі ад іншых узроўнем падрыхтоўкі і майстэрствам? Ці ёсць сёння ў вашай трупе беларускія артысты?**

— Адметнасць фестывалю, што праходзіць у Віцебску, у тым, што ён арыентаваны толькі на сучасную харэаграфію, у адрозненне ад іншых міжнародных балетных конкурсаў, куды мяне часта запрашаюць у журы. Таму мне, вядома, у гэтым сэнсе Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі (IFMC) бліжэйшы, раднейшы. Хачу адзначыць, што прафесійны ўзровень беларускіх танцоўшчыкаў за апошнія гады значна палепшыўся, і шмат у чым дзякуючы IFMC. На жаль, ёсць некаторыя юрыдычныя і фінансавыя цяжкасці, каб прыняць на працу танцоўшчыкаў з іншых краін, таму на сёння ў трупе «Кіеў-Мадэрн Балет» няма беларускіх артыстаў.

**— Тэатр рэгулярна бярэ ўдзел у фестывалі, і сёлета гледачы ўбачылі прэм'ерны спектакль «Жызэль» Адольфа Адана ў новым арыгінальным прачытанні.**

— У «Жызэлі» я не змяніў галоўную ідэю класічнай версіі: каханне — гэта тое, дзеля чаго мы прыходзім у гэты свет… Ведаеце, балет «Жызэль» карыстаецца вельмі вялікай цікавасцю ў публікі, таму паказваем гэты спектакль цяпер досыць часта. Прыемна, што глядач заўсёды вельмі ярка, эмацыянальна ўспрымае калізіі сюжэта, суперажывае галоўным героям.

**— Цяжка паверыць, але сёлета «Кіеў-Мадэрн Балет» адзначае юбілей — 10 гадоў. Як мяняўся тэатр? Ці ёсць пастаянны глядач, які на працягу ўсіх гадоў сочыць за вашай творчасцю? Можа быць, з'явіліся вучні, паслядоўнікі?**

— Тэатр — гэта жывы арганізм, і, вядома ж, яму ўласцівыя пэўныя змены. У апошнія дні я пераглядаю відэазапісы нашых першых спектакляў і разумею, што, нягледзячы на розныя складанасці, з якімі рана ці позна сутыкаецца кожны творчы калектыў, узровень нашых артыстаў пастаянна расце, гэта самае галоўнае. Сёння з упэўненасцю магу заявіць, што тэатр «Кіеў-Мадэрн Балет» жывы! Пастаянны глядач? Думаю, сярод нашых наведвальнікаў ёсць гледачы, якія былі на нашых спектаклях яшчэ ў 2006 годзе. Вучняў у мяне цяпер няма, але вельмі шмат артыстаў тэатра «Кіеў-Мадэрн Балет» сталі харэографамі. Яны не вучні — яны мае калегі! Дарэчы, многія з іх прадстаўляюць свае работы на віцебскім IFMC-2016. Я ўпэўнены, што ўсе гэтыя работы будуць годнымі, і я шчаслівы, што яны працягваюць працаваць у гэтым кірунку. Вядома, што перад артыстамі балета, пасля таго, як скончыцца кар'ера, заўсёды ўзнікае пытанне: што ж рабіць далей? Я рады, што многія артысты «Кіеў-Мадэрн Балета», якія бяруць удзел у фестывалі, ужо знайшлі адказ на гэтае пытанне: яны будуць прафесійнымі харэографамі. Як кіраўнік тэатра заўсёды падтрымаю ў гэтым.

**— Хочацца пацікавіцца вашымі творчымі планамі…**

— Як чалавек прымхлівы, не люблю загадзя распавядаць пра творчыя планы: нешта можа пайсці не так. Тым не менш гатовы раскрыць таямніцу: у найбліжэйшы час планую ажыццявіць пастаноўку двух аднаактовых балетаў. Адзін будзе пастаўлены на музыку сучаснага ўкраінскага кампазітара, а другі — на музыку 8-гадовага хлопчыка.

**Вераніка РУСАКОВІЧ**

# …Дзе чароўны вакал і «срэбныя трубы»

## «Маладыя галасы»: не толькі ў канцэртах, але на CD-дыску


Алена Камарова (сапрана), Цянь Фэн (тэнар).

Міжнародны музычны праект «Маладыя галасы» быў створаны ў 2005 годзе на базе опернага класа Беларускай акадэміі музыкі. Гэта аўтарскі праект, творчым кіраўніком якога з'яўляецца Тамара Мікалаеўна Астапенка — піяністка, арганістка, лаўрэат і дыпламант міжнародных конкурсаў. У праекта высакародныя мэты: спрыяць маладым музыкантам у іх прафесійнай дзейнасці, папулярызаваць класічную музыку і беларускую гістарычную музычную спадчыну.

Удзельнікі міжнароднага музычнага праекта «Маладыя галасы» падрыхтавалі ў Год культуры шэраг канцэртных праграм для прыхільнікаў элітнага музычнага мастацтва. Дзве заслугоўваюць асаблівай увагі: прэм'ера першай адбылася 21 мая гэтага года ў Мірскім замку, другая прагучала 1 кастрычніка, у Міжнародны дзень музыкі, у Нацыянальным мастацкім музеі.

За 11 гадоў (а менавіта столькі існуе праект) у «Маладых галасоў» склаліся добрыя творчыя стасункі з Мірскім замкам. Дадзены дзясяткі канцэртаў. Апошні з іх стаў асаблівым: удзельнікамі былі маладыя оперныя спевакі выключна з Кітая, пераможцы нацыянальных і міжнародных конкурсаў. Кітайскія музыканты неаднаразова бралі ўдзел у праектных канцэртах, але поўная эксклюзіўная праграма, якая атрымала назву «Оперныя галасы Паднябеснай», была прадстаўлена ўпершыню. У канцэрце выступілі вакалісты як ужо даволі вядомыя ў сваёй краіне, так і спевакі, што толькі пачынаюць оперную кар'еру.

Шматлікія замежныя госці з захапленнем прымалі прадстаўлены оперны рэпертуар, асабліва слухачоў уразіла, як кітайскія музыканты выконвалі творы рускай опернай класікі. Склад выканаўцаў быў нешматлікі, затое яркі і неардынарны. Саліст Шанхайскай оперы, лірычны тэнар Ван Юйфэй — тонкі інтэрпрэтатар з цудоўным густам, выканаў найскладанейшыя оперныя арыі, сярод якіх адзначым арыю Лорыса з оперы У. Джардана «Фядора», раманс Немарына з оперы Г. Даніцэці «Любоўны напой», песеньку Герцага з оперы Дж. Вердзі «Рыгалета». Пераможца міжнароднага вакальнага конкурсу ў Ланіга (Італія), драматычнае каларатура Лі Сюемэй узрушыла публіку бліскучай інтэрпрэтацыяй «Салаўя» А. Аляб'ева, а ў якасці музычнага падарунка ад сябе выканала некалькі нацыянальных кітайскіх кампазіцый. Неверагодна артыстычны тэнар Цянь Фэн, пераможца шматлікіх нацыянальных конкурсаў з вялікім канцэртным досведам, уразіў гледачоў трактоўкай неапалітанскай музыкі. А пранікліваe выкананне самым маладым салістам праекта барытонам Тэнгээрам оперных арый В. А. Моцарта не пакінула абыякавым ні аднаго слухача.


«Срэбная Труба» «Маладых галасоў» Юрый Слабодчыкаў.

Ёсць дзень, які для ўдзельнікаў праекта асаблівы: галоўнае свята ўсіх музыкантаў — Міжнародны дзень музыкі. Штогод у гэты дзень «Маладыя галасы» даюць канцэрт, які стаў ужо традыцыйным. Сёлета да гэтай даты яны падрыхтавалі новую праграму — «Оперная моладзь прадстаўляе…».

Аўтар праекта Тамара Астапенка адзначыла:

— На нашым традыцыйным канцэрце, прысвечаным надзвычай добраму святу, выступаюць таленавітыя выканаўцы. Нягледзячы на малады ўзрост, яны ўжо адбыліся як музыканты-прафесіяналы і кожнаму адкрытыя перспектыўныя шляхі. Але самае галоўнае, што іх усіх аб'ядноўвае Музыка. Музыка стала ладам і сэнсам іх жыцця.

За гады існавання ў праекта з'явіліся адданыя прыхільнікі, якія не прапускаюць ніводнага канцэрта, дзе б ён ні праходзіў: у Мірскім замку, у рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы ці ў Нацыянальным мастацкім музеі. Праект існуе пад эгідай ЮНЕСКА, і ўсе канцэрты яго ўдзельнікаў праходзяць у гістарычных архітэктурных прасторах — музеях, палацах, замках.

Сёлета праграма святочнага канцэрта была прысвечана выключна опернай музыцы з найшырэйшай палітрай стыляў ад барока да верызму. Гледачоў прыемна здзівіла тое, што ў канцэртную праграму вельмі арганічна былі ўключаны дзве прэзентацыі: новага СД-дыска, выпушчанага да 10-годдзя праекта, і невялікай партрэтнай галерэі. У канцэртнай праграме гучалі шэдэўры опернай музыкі В. А. Моцарта, Г. Ф. Гендэля, Дж. Вердзі, Г. Даніцэці. А для сапраўдных гурманаў былі выкананыя знакамітая *«Vittoria»* Дж. Карысімі ў канцэртнай транскрыпцыі для голасу, трубы і раяля, перліна любоўнай лірыкі барока *«Sento nel core»* А. Скарлаці, арыя Царыцы ночы з оперы В. А. Моцарта «Чароўная флейта» і іншыя сусветныя оперныя хіты.

Кожны з выканаўцаў — барытон Мікалай Раманчук, тэнар Андрэй Мацюшонак, барытон Андрэй Сялюцін, сапрана Алена Камарова, — нягледзячы на малады ўзрост, скарыў публіку высокім узроўнем выканальніцкага майстэрства, прафесіяналізмам і арыгінальнай інтэрпрэтацыяй найскладанейшых твораў опернай класікі. Гледачы з захапленнем сустрэлі выкананыя кітайскімі вакалістамі творы на рускай мове. Уладальнік аксамітнага, высакароднага па прыгажосці барытона Тэнгээр і яркі, харызматычны Цянь Фэн выканалі сачыненні рускай вакальнай музыкі — арыю Дэмана з аднайменнай оперы А. Рубінштэйна і песню спевака за сцэнай з оперы «Рафаэль» А. Арэнскага.

Асаблівая гордасць праекта — выканаўца на трубе, як называюць яго самі ўдзельнікі, «Срэбная Труба» «Маладых галасоў» Юрый Слабодчыкаў, саліст аркестра Цірольскага фестывалю ў Эрле (Аўстрыя). Глыбокі музыкант, бліскучы прафесіянал, сапраўдны прадстаўнік высокага элітнага мастацтва, ён бярэ ўдзел ці не ў кожнай канцэртнай праграме. Публіку ўразіла неверагодна мяккае, павольнае, сапраўды «вакальнае» гучанне інструмента ў «Сентыментальнай серэнадзе» Э. Тазэлі і канцэртных парафразах на тэмы оперы «Сельскі гонар» П. Масканьі. Спадабаўся слухачам і арыгінальны інтэрнацыянальны дуэт Алены Камаровай і Цянь Фэна, які выканаў знакамітую *«Mattinata»* Р. Леанкавала. А ў гонар Дня ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі, які супадае з Міжнародным днём музыкі, у знак павагі да гэтай краіны з яе найстаражытнейшымі культурнымі традыцыямі была выканана праграма ў Кітаі кампазіцыя «Вялікая Кітайская сцяна». У завяршэнне канцэрта як падзяка ад удзельнікаў за талент, падараваны Богам, як шчырая ўдзячнасць бацькам, якія змаглі знайсці сілы дапамагчы стаць музыкантамі-прафесіяналамі, і як глыбокая падзяка слухачам гучала знакамітая *«Alleluia»* з матэта В. А. Моцарта *«Exsultate, jubilate»* ў святочным суправаджэнні трубы і раяля.

Але да канца Года культуры ў «Маладых галасоў» падрыхтавана яшчэ некалькі музычных сюрпрызаў.

**Вера ШНАЙДЭР**

# Музычнае падарожжа ў даўніну

**Чароўная вытанчаная музыка эпохі барока ў выкананні ансамбля «Камерныя салісты Мінска» гучыць на розных пляцоўках краіны і за яе межамі ўжо на працягу 15 год. Невялікі юбілей калектыў адзначыў 19 лістапада канцэртам на сцэне Вялікай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

Стваральнік і кіраўнік «Камерных салістаў Мінска» Дзмітрый Зубаў з юнацтва цікавіўся музыкай эпохі барока. Яму заўсёды хацелася, каб гучанне было менавіта такім, якім яго задумалі кампазітары. І для таго, каб займацца аднаўленнем і развіццём асаблівай эстэтыкі гуку, Дзмітрый Яўгенавіч сабраў невялікі калектыў зацікаўленых гэтай тэмай людзей.

— Першапачаткова «Камерныя салісты Мінска» складаліся з двух скрыпак, альта, віяланчэлі, кантрабаса, клавесіна і барочных флейт. Першая праграма, якую мы прадставілі, была прысвечана музыцы І. С. Баха. Затым выконвалі шмат сачыненняў розных кампазітараў, у асноўным нямецкіх і італьянскіх, эпохі барока і ранняй класікі канца XVIII стагоддзя. Але творы Баха ігралі часцей за ўсё, — дзеліцца ўспамінамі Дзмітрый Зубаў.

Таму падчас канцэрта, прысвечанага 15-годдзю творчай дзейнасці, «Камерныя салісты Мінска» выканалі творы гэтага кампазітара, у прыватнасці «Шэсць Брандэнбургскіх канцэртаў».

— Нам захацелася сыграць нешта значнае, напісанае менавіта Бахам. Я выбраў «Шэсць Брандэнбургскіх канцэртаў», таму што гэта музыка неверагоднай прыгажосці, якая патрабуе ведаў і майстэрства.


«Камерныя салісты Мінска».

Усе шэсць канцэртаў прагучалі ў Беларусі ўпершыню. І, што яшчэ больш істотна, яны ніколі не гучалі менавіта на тых інструментах, для якіх іх пісаў Іаган Себасцьян Бах. Дзмітрый Зубаў запрасіў для выканання «Шасці Брандэнбургскіх канцэртаў» шмат музыкантаў з іншых краін, якія спецыялізуюцца на ігры на барочных інструментах. Артысты з Расіі, Германіі, Польшчы, Венгрыі прыехалі з такімі незвычайнымі для нашага часу інструментамі, як флейта-траверса, блокфлейта, барочныя габоі і фаготы, натуральныя валторны і трубы, віолы да гамба, тэрцовая скрыпка.

— Часта барочныя інструменты замяняюцца сучаснымі. Але, на мой погляд, гэта не дае добрага выніку. Таму што парушаюцца баланс паміж інструментамі і гукавая эстэтыка, — лічыць Дзмітрый Зубаў.

«Камерныя салісты Мінска» — бадай што адзіны музычны калектыў, які спецыялізуецца на выкананні твораў эпохі барока і ранняга класіцызму. Мастацкі кіраўнік Дзмітрый Зубаў прапануе публіцы праграмы, якія не пачуеш нідзе ў нашай краіне. «Камерныя салісты Мінска» шырока вядомыя цыклам канцэртаў «Музычныя сталіцы Еўропы», выкананнем старадаўніх твораў і асаблівай захопленасцю музыкай даўніны. Нягледзячы на тое, што музыканты працуюць у іншых калектывах, аркестрах, не перастаюць здзіўляць слухачоў віртуозным выкананнем рэдкіх твораў.

**Юлія КАРДАШ**

# «Мастак ведае, як зрабіць з густам»

## Кірункі развіцця айчыннага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва

***«Factum Est Factum»* — трыенале дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Палацы мастацтваў, дзе прадстаўлены лепшыя творы беларускіх мастакоў, скульптараў і дызайнераў. Кожная такая выстаўка — добрая магчымасць убачыць, на якой стадыі знаходзіцца айчыннае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, з якімі праблемамі сутыкаецца.**



*Святлана Баранкоўская «Гардэроб».*

«У папярэднія гады на выстаўцы можна было ўбачыць больш керамікі і шкла, — расказвае старшыня секцыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Ірына Кузняцова. — Але з Барысаўскім камбінатам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мы не супрацоўнічаем, як раней. З керамікай, напрыклад, працуюць толькі тыя, у каго ёсць уласныя печы, вытворчасці. На Барысаўскім камбінаце кажуць, што задавальваюцца ўласнымі сіламі. Але тое, што сёння прадаецца ў крамах, было створана мастакамі гадоў дваццаць таму. Гэта ўжо нямодна. Нам кажуць: зрабіце, і калі будзе прадавацца, тады і грошы прыдуць. Акцэнтуюць увагу на тым, што крамы бяруць тое, што ёсць. А адкуль крамы ведаюць, што мастакі могуць прапанаваць цяпер? Здавалася б, у нас такі вялікі камбінат, а паказаць нешта новае, цікавае не можа. У краіне, дзе кераміка заўсёды квітнела, цяпер у заняпадзе, а той тавар, які бяруць крамы, могуць купляць толькі на вёсцы з-за адсутнасці выбару. Напрыклад, калі няма чыгуна патрэбнага, чалавек возьме той, які ёсць у асартыменце. Посуд з Барысаўскага камбіната ў Мінск не паступае, таму што тут яго ніхто не купіць. На ўсе нашы просьбы, каб камбінат працаваў з айчыннымі мастакамі, атрымліваем адмовы, кіраўніцтва прадпрыемства і так усё задавальняе. Вырашыць самі нічога не можам, мастакі не будуць увесь час задарма працаваць. Бо з той жа керамікай: трэба абпаліць, а ў выніку заплаціць за святло. Гэта вельмі дорага. Камбінат баіцца, што вырабы мастакоў могуць не зацікавіць спажыўца. Дык трэба прааналізаваць крамы: вывучыць попыт, элементарна ў інтэрнэт-прасторы паглядзець, што цяпер прадаецца. Нават калі гаворка заходзіць пра касцюмы, нам кажуць, што абыдуцца без нас. Баяцца, што прыйдзецца шмат заплаціць. Але чаму? Мастак можа зрабіць касцюм прыгажэйшым і нават таннейшым, чым майстар камбіната, які нагружае іх усялякімі залатымі ніткамі, гузікамі, якія не заўсёды дарэчы. Мастак ведае, як зрабіць, каб было з густам».



*Ірына Кузняцова «Гарошына для прынцэсы», 2012 г.*

На трыенале ў Палацы мастацтваў здзіўляешся магчымасцям айчынных творцаў. Тэхнікі, у якіх працуюць аўтары, ідэі, якія яны ўвасабляюць у жыццё, цудоўныя. Як адзначыла Ірына Кузняцова, *«Factum Est Factum»* — экспазіцыя не эталонаў, а ўнікальных твораў, якія зроблены ў адзіным экзэмпляры. І мастакі імкнуцца працаваць нават без адчувальнай падтрымкі Барысаўскага камбіната. Але пытанні з вытворчасцю ёсць не толькі ў дачыненні да керамікі, але і ў мастакоў, што працуюць са шклом. На гэтую тэму Ірына Кузняцова патлумачыла:

— Думаю, на наступнай выстаўцы вырабаў са шкла практычна не будзе. Будзе толькі шкло зляпленае, якое не патрабуе апрацоўкі на заводзе, а толькі нарэзкі і плаўлення ў муфелі. Калі развалiўся Савецкі Саюз, шклозавод «Нёман» апынуўся ў вельмі складаным становішчы: раней, акрамя шкла, ён славіўся крышталём, але час паказвае, што нарэзка, якая ўпрыгожвае вырабы, ужо не мае попыту. Мастакам сказалі: калі хочаце паставіць прадукцыю, то толькі крышталь і толькі шкло. Шкло ў нас зялёнае, яго не бяруць, крышталь у нас добры, але толькі калі без нарэзкі, бо гэта не запатрабавана. У 2010 годзе быў сімпозіум па шкле. Нам далі час на стварэнне вырабаў. Усё рабілі з бясколернага шкла. Раней у нас было цалкам жоўтае, чырвонае шкло, яно вельмі дарагое, і тады гэтага ніхто не цаніў, а цяпер выкарыстоўваем толькі бясколернае. Зразумела, што той прыгажосці і таго імя «Нёмана» ў нас няма, і шкада, што мастакі не маюць магчымасці ствараць там вітражы і годныя вялікія рэчы, ездзяць толькі студэнты. Мы пазбаўленыя былой базы. У сувязі з гэтым мастацкае шкло, якім славілася Беларусь, можна казаць, знікае.

На выстаўцы, акрамя керамічных твораў і мастацкага шкла, можна ўбачыць шмат габеленаў. Цікава, як справы з вытворчасцю гэтага мастацкага «прадукту»?

«Што тычыцца габеленаў, майстры іх ткуць дома. У Барысаве, як раней, габелены не ткуцца. Гэта ўсё ручная праца, — адзначае Ірына Кузняцова. — Многія габелены сышваюцца: у хатніх умовах іх вялікімі адразу зрабіць немагчыма. Аднак на сёння класічная тэхналогія ткацтва мала каго задавальняе. На гэтай глебе неаднаразова былі разыходжанні: ткачы кажуць, што яны прафесіяналы і ведаюць, як рабіць, але ж такі падыход больш нікому не патрэбны. У выніку ў апошнія гады знаходзяцца новыя тэхналогіі ў габелене. І цяпер ткацтва ў Беларусі выходзіць на высокі ўзровень. Калі раней кераміка і шкло займалі моцныя пазіцыі, габелен саступаў ва ўзроўні, то сёння наадварот. Так адбывалася, таму што айчынныя ткачы працавалі толькі з класікай. Калі нашы мастакі пачалі выязджаць за мяжу і ўбачылі, што справа зусім не ў матэрыяле, а ў думцы мастака, у тым, як аўтар можа выказаць канцэпцыю ідэі, габелен у Беларусі дадаў у якасці».



*Наталля Яўгелеўская «Сямейная рада», 2016 г.*

**Вікторыя АСКЕРА**

## *Культурны ракурс*



Што больш блізкае і зразумелае жыхарам і гасцям горада, як не малая гарадская скульптура? І настрой, і ўпрыгожванне ўрбаністычнай прасторы... Сёння амаль для кожнага горада падобныя архітэктурныя формы — не проста аздоба, але і культурны акцэнт, візітная картка.

У Віцебску, недалёка ад Летняга амфітэатра, вы абавязкова сустрэнеце скульптуру «Вулічны музыка». Яе аўтар — выдатны беларускі скульптар Іван Казак, які нарадзіўся, жыве і працуе на віцебскай зямлі. Ідэя стварэння скульптуры належыць заслужанаму артысту Расіі, кіраўніку «Неверагодна дзіўнага цырка» Мікалаю Чалнакову, пры падтрымцы якога гэты праект і ажыццявілі ў 2008 г.

Віцябляне і госці горада вельмі палюбілі «музыку» і называюць яго «Вулічным клоўнам». Скульптура ўжо «абрасла» павер'ямі і легендамі. Так, дакрануўшыся да гармоніка, можна «заразіцца» добрым настроем. А яшчэ варта пацiснуць лапку сабачку — фартуна вас не пакіне!

**Дзмітрый ЮРТАЕЎ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас **lim_new@mail.ru** з пазнакай **«Культурны ракурс»** — лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 24.11.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1606.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4466

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686